5 студзеня 2021 | № 1 (709)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







**«Беларусы хутка выберуцца з пасткі...»**

**стар. 10–11**

# Новы год у новай Беларусі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Наперадзе яшчэ адзін няпросты год. Але мы ўжо ведаем, якая ўзнагарода нас чакае, калі пройдзем праз усе выпрабаванні. І мы гатовыя да гэтага.**

Новы 2021-ы год беларусы сустрэлі сапраўды па-новаму. 31 снежня ў 23.34 (менавіта па такім артыкуле Адміністрацыйнага кодэкса ў 2020-м адседзелі суткі і атрымалі штрафы тысячы беларусаў) ледзь не ў кожным мінскім двары загрукаталі салюты. З вокнаў замігцелі агеньчыкі ліхтарыкаў. Але самае галоўнае — паўсюль гучала па-сапраўднаму пераможна: «Жыве Беларусь!»

І была ў гэтых воклічах такая шчырасць і ўпэўненасць, што не засталося ніякіх сумневаў: і ў 2021-м беларускае змаганне працягнецца з не меншым імпэтам, сілай і крэатыўнасцю. Беларусы, якія летась адчулі гаркаваты прысмак свабоды, не спыняцца і зробяць усё, каб выпіць гэтую свабоду да донца, як келіх з бруістым шампанскім у навагоднюю ноч.

А потым, за 15 хвілін да Новага года, ледзь не ўсе мы — ці не ўпершыню за многія гады — з цікаўнасцю і надзеяй слухалі навагодні зварот лідара, за якога многія з нас аддалі свае галасы ў спадзеве на перамены. І гэта прамова — не проста словы, напісаныя таленавітым спічрайтарам. Гэта было тое, што мы бачылі штодня цягам апошніх чатырох месяцаў. Мы нібыта зноў перажылі ўсе тыя драматычныя, трагічныя і шчаслівыя падзеі, яны ўсё яшчэ адгукаюцца ў нашых сэрцах — і таму многія з нас плакалі падчас звароту Святланы Ціханоўскай.

Але гэта не былі слёзы болю ці адчаю. Гэта былі слёзы шчаслівага ўсведамлення таго, што сапраўды сталі іншымі — моцнымі, адкрытымі і свабоднымі.

Таму ў святочную ноч разам са сваімі суседзямі мы запускалі феерверкі, віншавалі адзін аднаго, частавалі, а яшчэ бясстрашна гукалі: «Жыве Беларусь!» Бо гэта наша зямля, мы тут гаспадары, і ніхто не перашкодзіць нам будаваць сваю краіну!

У гэтую навагоднюю ноч пра тое, што ў краіне захоўваюцца рэшткі дыктатуры, нагадвалі хіба што амаль пустыя праспекты, шэрагі сумных міліцыянтаў за турнікетамі на пляцоўках для «масавых гулянняў» ды аўтазакі, што прытуліліся паабапал. У першую ноч 2021-га года старанна выбудаваная ўладай ілюзія ўсеагульнага падпарадкавання разбілася, як шкляны елачны шар.

Мы ўсведамляем, што так, як раней, ужо не будзе. Наперадзе ў нас — яшчэ адзін няпросты год. Але мы ўжо ведаем, якая ўзнагарода чакае нас, калі мы пройдзем праз усе выпрабаванні. І мы гатовыя да гэтага. Дык шчаслівага новага года, беларусы!

# Што змяняецца ў 2021-м? Штрафы, падаткі, пенсійны ўзрост

**Новы год прынёс шмат зменаў для шараговых грамадзян, прынамсі больш давядзецца плаціць за шматлікія паслугі, падвышаюцца цэны на некаторыя тавары, а таксама на 6 месяцаў павялічваецца пенсійны ўзрост.**

### Базавая велічыня

Прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 783, якой з 1 студзеня 2021 года ўстаноўлены новы памер базавай велічыні. У адпаведнасці з дакументам, памер базавай велічыні складзе 29 рублёў. Апошнім разам яе падвышалі 1 студзеня 2020 года — з 25,5 да 27 рублёў.

Базавая велічыня — гэта эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай канкрэтных матэрыяльных або нематэрыяльных выгод. Гэты паказчык уплывае на памер некаторых дапамог, стыпендый, падаткаў і збораў, штрафаў, іншых выплат, у тым ліку дапамог па беспрацоўі і стыпендый беспрацоўным, што накіроўваюцца службай занятасці на вучобу і г. д.

Такім чынам павялічацца некаторыя пошліны, мыты і выплаты. Напрыклад, пошліна за выдачу новага пашпарта складзе 29 рублёў.

Дарэчы, да базавай велічыні прывязана і дапамога па беспрацоўі. Яна не можа перавышаць дзве базавыя велічыні. Адпаведна, з Новага года максімальная дапамога беспрацоўным складзе 58 рублёў (раней — 54 рублі).

Павысяцца некаторыя штрафы. Напрыклад, штраф за безбілетны праезд у гарадскім транспарце з 1 студзеня складзе ад 14,5 да 29 рублёў (раней — ад 13,5 да 27 рублёў), у прыгарадным транспарце — 20,3 рубля (раней —18,9 рубля), у міжгароднім — 29 рублёў (раней — 27 рублёў).

Штраф за шум і вібрацыю з 23 да 7 гадзін з гэтага года можа скласці да 870 рублёў (раней — да 810 рублёў). За самавольную перапланіроўку без змены апорных канструкцый могуць аштрафаваць на суму да 870 рублёў (раней — да 810 рублёў), са змяненнем апорных канструкцый — ад 870 да 1450 рублёў (раней — ад 810 да 1350 рублёў).

За кіраванне без тэхагляду пры першым парушэнні цягам года штраф можа скласці ад 29 да 87 рублёў (раней — ад 27 да 81 рубля), пры паўторным — ад 58 да 174 рублёў (раней — ад 54 да 162 рублёў). Штраф за кіраванне ў нецвярозым стане складзе ад 1450 да 2900 рублёў (раней — ад 1350 да 2700 рублёў).

### Падаткі на здачу ў арэнду

Стаўкі падаткаў за здачу ў арэнду аб'ектаў нерухомасці перагледзелі з 1 студзеня. У некаторых гарадах, у тым ліку Оршы і Полацку, падатак на здачу ў арэнду аднаго жылога памяшкання паднялі больш чым на 40%. Новаўвядзенні прадугледжаны абноўленым Падатковым кодэксам.

Для Мінска максімальную стаўку падаходнага падатку з фізічных асоб за здачу ў арэнду аднаго жылога памяшкання павысілі да 34,3 рубля. Для параўнання: у 2020-м стаўка складала ад 18,5 да 32,5 рубля. Гараж (гаворка пра металічны або драўляны гараж, машына-месца) здаць у арэнду ў 2021-м у сталіцы можна з падаткам 11,1 рубля.

У абласных цэнтрах падатак за здачу кватэр паднялі да 32,2 рубля, а гаражоў — да 8,9 рубля. У такіх гарадах, як Баранавічы, Бабруйск, Барысаў, Жлобін, Жодзіна, Ліда, Мазыр, Маладзечна, Наваполацк, Орша, Пінск, Полацк, Рэчыца, Светлагорск, Слуцк, Салігорск, збор за здачу кватэр вырас да 21,1 рубля, а гаража — да 5,6 рубля.

У іншых гарадах абласнога, раённага падпарадкавання і пасёлках гарадскога тыпу падатак за здачу ў арэнду жылога памяшкання з 1 студзеня складае 15,5 рубля, гаража — 4,4 рубля, а ва ўсіх астатніх населеных пунктах і тэрыторыях — 11,1 рубля і 3,4 рубля адпаведна.

### Пенсійны ўзрост

З 1 студзеня павялічыўся на 6 месяцаў узрост выхаду на пенсію. Цяпер мужчыны могуць выйсці на пенсію ў 62,5 года, а жанчыны ў 57,5.

Акрамя таго, на паўгода вырас мінімальны страхавы стаж. З гэтага года трэба 18 гадоў рабіць выплаты ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, каб атрымаць працоўную пенсію.

Калі страхавога стажу не хапае, то замест працоўнай пенсіі будзе налічвацца сацыяльная, якая цяпер складае 129 рублёў.

Пенсійны ўзрост павялічваецца паступова з 2018 года і будзе расці да 2023 года, дасягнуўшы 58 гадоў для жанчын і 63 гадоў для мужчын.

### Збор за перасячэнне мяжы

Мясцовым уладам дазволілі ўвесці збор для тых, хто перасякае мяжу на машыне праз пункты пропуску. У якасці абгрунтавання прыводзіцца кансалідацыя выдаткаў бюджэту для барацьбы з COVID-19.

**Плаціць збор трэба будзе, калі максімальная маса транспартнага сродку не перавышае 5 тон і ў ім маецца не больш за 8 месцаў для сядзення, акрамя кіроўцы. Па сутнасці, гэта тычыцца ўсіх легкавых аўтамабіляў**

Плаціць збор трэба будзе, калі максімальная маса транспартнага сродку не перавышае 5 тон і ў ім маецца не больш за 8 месцаў для сядзення, акрамя кіроўцы. Па сутнасці, гэта тычыцца ўсіх легкавых аўтамабіляў. А плаціць яго давядзецца кожны раз пры выездзе за мяжу.

Уводзіць яго будуць абласныя Саветы дэпутатаў на тэрыторыі адпаведных рэгіёнаў. Такое права даецца ім на два гады — з 1 студзеня 2021 года і да 1 студзеня 2023 года.

Стаўкі збору ўстанаўліваюцца абласнымі Саветамі дэпутатаў, у тым ліку ў залежнасці ад максімальна дазволенай масы транспартнага сродку, у межах 3 базавых велічынь (гэта значыць, 87 рублёў), незалежна ад колькасці пасажыраў у аўтамабілі.

Плаціць збор будзе кіроўца аўтамабіля да перасячэння мяжы або ў пункце пропуску. Норма распаўсюджваецца як на машыны фізічных асоб, так і на аўтамабілі, якія належаць ІП і арганізацыям.

Не трэба будзе плаціць збор з транспартных сродкаў кіраўнікоў дзяржаў, урадаў, дыпмісій, а таксама тым, хто едзе на пахаванне, лячэнне (пры наяўнасці пацвярджальных дакументаў). Вызваляюцца ад выплаты збору інваліды 1-й і 2-й групаў, удзельнікі ВАВ, ліквідатары аварыі на ЧАЭС, удзельнікі спартыўных, культурна-масавых і адукацыйных мерапрыемстваў (пры наяўнасці дакументаў).

Пакуль ні адзін з абласных Саветаў дэпутатаў не прыняў рашэнне аб увядзенні мясцовага збору. Рашэнні абласных Саветаў дэпутатаў аб увядзенні збору ўступаюць у сілу з 1-й даты месяца, што ідзе за месяцам іх афіцыйнага апублікавання. То-бок, калі нават у найбліжэйшыя дні такое рашэнне будзе прынята ў нейкай вобласці, то яно ўступіць у сілу толькі з 1-га лютага.

### Транспартны падатак

З 1 студзеня адмянілі дзяржпошліну за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху — цяпер замест яе будзе транспартны падатак. Плаціць прыйдзецца менш, а працэс будзе адвязаны ад тэхагляду. Гэта прадугледжана Законам «Аб змене Падатковага кодэкса».

Стаўкі падатку ў параўнанні з дзяржпошлінай знізяцца. Памер транспартнага падатку будзе залежаць ад вагі і фактычнага часу валодання машынай.

Раней фізічнай асобе за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху за аўтамабіль масай да 1,5 тоны і старэйшых за 10 гадоў трэба было заплаціць 81 рубель (з 1 студзеня — 61 рубель). Пры масе машыны ад 1,5 да 2 тон стаўка складала 162 рублі (з сённяшняга дня пры масе машыны ад 1,5 да 1,75 тоны 81 рубель, а пры масе машыны ад 1,75 да 2 тон — 102 рублі).

Плаціць транспартны падатак будуць усе аўтаўладальнікі незалежна ад удзелу ў дарожным руху. Па сутнасці, гэта ўжо не збор на дарогі, а новы маёмасны падатак, які плаціцца па факце валодання, незалежна ад таго, карыстаешся ты гэтай маёмасцю ці не: той, у каго тры аўто, будзе плаціць за ўсе тры; заплаціць давядзецца і ўласнікам «аўтахламу»: калі машына стаіць на ўліку ў ДАІ, на яе налічаць падатак.

Таксама прадугледжаны льготы: стаўкі падатку для пенсіянераў знізяць на 50%, для інвалідаў ІІІ групы — на 25%. Акрамя таго, органы мясцовага кіравання і самакіравання змогуць поўнасцю або часткова вызваляць ад падатку фізічных асоб, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.

Вызваляюцца ад падатку таксама ўласнікі электрамабіляў і аўто, выпушчаных да 1991 года.

Плаціць транспартны падатак трэба будзе раз на год. Усім уласнікам транспартных сродкаў будуць рассылаць паведамленні з падатковай інспекцыі. Як і ў выпадку з падаткам на нерухомасць, паведамленні дашлюць да 15 лістапада, а разлічыцца трэба будзе да 15 снежня.

Аднак наступны год будзе пераходным: аплата ва ўсіх будзе аднолькавая — 1 базавая велічыня, а ўжо ў 2022 годзе трэба будзе даплаціць падатак.

Тым, у каго аўто будзе знятае з уліку да 1 ліпеня 2021 года, плаціць падатак не трэба.

# Мы вяртаемся ў часы судзілішчаў часоў СССР

**З юрыстам праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцінам Стэфановічам паразмаўляла Радыё Рацыя. Праваабаронца пракаментаваў адну з многіх сотняў палітычна матываваных крымінальных справаў, але найбольш адыёзную, — справу грамадскага актывіста Мікалая Аўтуховіча.**

— Справу ацэньваць вельмі складана, таму што ніякай інфармацыі мы не маем. Акрамя той інфармацыі, у чым іх абвінавачваюць, то-бок гэта падрыхтоўка тэрактаў і нават здзяйсненне тэрарыстычнага акту — падпалы машын і яшчэ чагосьці, дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі і выбуховых рэчываў. Але, натуральна, такога кшталту заявы чалавека, выконваючага абавязкі кіраўніка дзяржавы, сведчаць пра тое, што ўжо цяпер парушаюцца прынцыпы судовага разбіральніцтва ў дачыненні да гэтых людзей. У прыватнасці, прэзумпцыі невінаватасці, якая з'яўляецца канстытуцыйным правам.

Чалавек, які з'яўляецца самым высокапастаўленым чыноўнікам, сцвярджае, што гэтыя людзі вінаватыя ў здзяйсненні злачынства — хаця іх віна яшчэ далёка не ўстаноўленая ні следствам, ні судом. Вядзецца гаворка пра тое, што яны вазілі тонамі зброю праз мяжу. У мяне тады ўзнікае пытанне, а што там памежнікі робяць на мяжы, калі праз яе зброю тонамі возяць? Плюс мы чулі заяву МУС Украіны, якое абвінаваціла Лукашэнку ў нейкіх чарговых інсінуацыях.

У прынцыпе, усё гэта укладаецца ў такую канцэпцыю знешняга ўмяшання, што ўлады рэтранслююць ужо практычна на працягу года. Спачатку гэта былі расіяне, якія нібыта ўмешваліся ў выбары, высылалі нам сваіх вагнераўскіх баевікоў. Пасля выбараў — гэта ўжо Захад і Украіна, якая таксама дасылае нейкіх баевікоў, зброю ці яшчэ штосьці, хаця нам яшчэ ніводнага разу не паказалі такіх людзей.

Ужо цяпер можна казаць пра палітычна матываваны характар справы, бо Лукашэнка сваімі заявамі толькі пацвярджае гэта. Мы будзем працягваць за гэтым сачыць.

Апрыёры вельмі цяжка даваць усёй афіцыйнай інфармацыі, асабліва памятаючы пра папярэднія выпадкі, калі нам неаднаразова паказвалі арсеналы зброі. Нават у людзей з багажніку аўтамат нібыта даставалі па справе «Белага легіёна», а пасля спынялі справу за адсутнасцю складу злачынства. Незразумела, ці быў аўтамат, а калі не было, то хто яго туды паклаў. Таму мы да гэтага ставімся крытычна.

Верагодна, што ва ўладаў ёсць задача стварыць некалькі такіх спраў па нібыта тэрарыстычных групах. Натуральна, што яны гэта ўжываюць у мэтах запалохвання актыўнай часткі грамадства, у прапагандысцкіх мэтах, нібыта пацвярджаючы свае версіі пра нейкае знешняе ўмяшанне.

«І ў такой непрапарцыйнасці пакаранняў, безумоўна, ёсць палітычны матыў», — упэўнены Валянцін Стэфановіч.

# Сацыёлаг: Крызіс у Беларусі выйшаў за рамкі палітычнага і ўпіраецца ў базавыя этычныя нормы

**Ці можаш ты апраўдаць гвалт і беззаконне добрымі мэтамі, імкненнем да стабільнасці, амерыканскай пагрозай? Ці, нават не падзяляючы памкненняў тых, хто сёння выступае за перамены, не гатовы жыць у краіне, дзе за выказванне свайго пункту гледжання чалавека можна пазбавіць усіх правоў і нават беспакарана забіць? Крызіс, які разгортваецца, даўно выйшаў за рамкі палітычнага ці ідэалагічнага і ўпіраецца ў базавыя этычныя нормы. І чым далей, тым менш шанцаў застацца ўбаку, перакананая сацыёлаг Аксана Шэлест.**



Фота www.tut.by

У Беларусі разгортваецца маштабнае супрацьстаянне, якое змушае нас адмаўляцца ад звыклых намінацый у галіне, звязанай з дзяржавай (мы не можам больш называць рэжым «уладай», паколькі маем сітуацыю двоеўладдзя; мы не можам больш называць «праваахоўнымі» некаторыя дзяржорганы, мы наогул не можам больш карыстацца абагульненым тэрмінам «дзяржава» ў адносінах да ўсё яшчэ дзеючых інстытутаў кіравання), і ад звыклых уяўленняў аб беларускім грамадстве.

Палітычная мабілізацыя лета-восені 2020 года звязана ў тым ліку з магічным пераходам маркёра «большасці». Многія гады да гэтага прыхільнікі рэжыму ўсведамлялі сябе большасцю (і, паклаўшы руку на сэрца, усе разумныя яго праціўнікі з гэтым не асабліва спрачаліся), але цяпер усё змянілася. Спачатку тыя, хто пайшоў за альтэрнатыўнымі кандыдатамі, а потым тыя, хто выйшаў на вуліцы пасля цынічна накручаных «афіцыйных вынікаў» выбараў, першай хвалі пратэстаў і іх жорсткага падаўлення, раптам адчулі: большасць — гэта яны. Што адыграла ў гэтым вырашальную ролю — мем «Саша 3%», некальі сотняў тысяч людзей на вуліцах 16 жніўня ці проста назапашанае адчуванне, што мала хто ў гэтай краіне рады такой уладзе, — наўрад ці калі-небудзь будзе аб'ектыўна ўстаноўлена. Але факт застаецца фактам — да восені 2020 года ўяўленні пра тое, хто ў большасці, а хто ў меншасці ў гэтай краіне, перавярнуліся.

Гэта не пра працэнтнае размеркаванне і рэальную большасць-меншасць, лічачы па галовах. Гэта пра калектыўныя ўяўленні. Мы востра адчулі гэта, калі праводзілі апытанні на вуліцах у жніўні-верасні. І не толькі па тым, што казалі нам удзельнікі нядзельных маршаў, якія пратэстуюць супраць фальсіфікацыі выбараў і існуючага рэжыму, але і па тым, як спалохана або агрэсіўна сыходзілі ад размоў удзельнікі акцый праражымных.

Аднак адчуванні, мем пра 3%, гэтак жа, як і тытул «прэзідэнт АМАПу», які з'явіўся пасля вядомых падзей, могуць натхняць, але наўрад ці разумна не прызнаваць, што беларусы, якія жадаюць захаваць рэжым, існуюць. І гэта не толькі прадстаўнікі верхніх паверхаў кіраўніцкай вертыкалі, сілавых структур і іншыя прамыя бенефіцыяры, якія са зменай існуючага парадку губляюць калі не ўсё, то амаль усё.

Ацаніць колькасць жыхароў краіны, якія шчыра, па перакананнях, не хочуць змены існуючага рэжыму, складана, паколькі нават звычайныя спосабы такой ацэнкі сёння недаступныя. Шмат дзідаў зламана з нагоды таго, колькі ж людзей прагаласавалі «за» і «супраць» на выбарах, аднак для ацэнкі актуальнай сітуацыі гэта ўжо амаль не мае значэння — занадта шмат адбылося «пасля». Розныя крыніцы дазваляюць меркаваць, што падтрымку існуючага рэжыму сёння вельмі груба можна ацаніць у калідоры 15–30%. Так, па выніках анлайн-апытання Chatham House, група, названая даследнікамі «аплот Лукашэнкі», складае 23,1% ад выбаркі. Як і ва ўсіх інтэрнэт-апытаннях такога тыпу, мы не можам быць упэўненыя ў яго рэпрэзентатыўнасці, паколькі немагчыма забяспечыць выпадковасць выбаркі. Аднак больш надзейных адкрытых крыніц на сёння ў нас няма.

Не так проста зразумець, і хто гэтыя людзі, гэта «новая меншасць», і не ў сэнсе сацыяльна-дэмаграфічнага партрэта («параўнальна больш пенсіянераў і людзей з сярэдняй адукацыяй», па дадзеных таго ж Chatham House), а ў сэнсе ўстановак і светапогляду. У адсутнасць даследчых даных, паспрабуем паразважаць пра гэта.

Відавочна, найбольш устойлівая апора рэжыму — гэта людзі, чые этычныя (і эстэтычныя) нормы супадаюць з нормамі рэжыму. Гэта калі «б'е — значыць кахае», «рука руку мые», «закон, што дышаль», «хто мацнейшы, той і мае рацыю», а праўда — «гэта тое, што сёння лічыцца праўдай». Гэта людзі, для якіх грубасць і хамства асацыююцца з сілай (а сіла — з праўдай), працуе прынцып «ты начальнік, я дурань, і наадварот», і якія абсалютна камфортна адчуваюць сябе менавіта ў свеце, які быў наладжаны па такіх правілах. Хочацца верыць, што такіх людзей у Беларусі не так шмат, хоць, безумоўна, яны існуюць.

Аднак ёсць і іншая частка людзей, якія сёння актыўна або пасіўна падтрымліваюць рэжым і выступаюць за яго захаванне, хоць маюць іншыя этычныя і светапоглядныя ўстаноўкі, у большай ці меншай ступені не супадаюць з этасам дзеючага рэжыму. Можна вылучыць некалькі ўстановак рознага парадку, якія прымушаюць такіх людзей працягваць падтрымліваць сённяшні рэжым.

### Мінулае на месцы будучага, або «Назад у СССР»

«Савецкага» ў Беларусі і на сённяшні дзень даволі шмат на розных узроўнях, у тым ліку і ў сэнсе самаідэнтыфікацыі і каштоўнасцяў. У адным з няданіх даследаванняў высветлілася, што трэціна беларускіх гараджан адчувае настальгію па часах СССР і беражліва ставіцца да савецкай спадчыны. Але мы будзем тут казаць не пра старэйшае пакаленне, якое адчувае цалкам натуральную настальгію па часах сваёй маладосці, і нават не пра тых, для каго гісторыя Беларусі вычэрпваецца савецкім перыядам, паколькі такія погляды і ўстаноўкі не пазбаўляюць людзей крытычнасці мыслення. Мы будзем казаць пра людзей, якія арыентаваныя нават не на ідэалогію, а на стандарты і ўяўленні савецкіх часоў, у якіх занятасць павінна быць гарантаванай, развіццё — прамысловым, а выхаванне — патрыятычным.

Крушэнне СССР для іх да гэтага часу застаецца вялікай гістарычнай (і асабістай) трагедыяй, 90-я гады — самым страшным часам у гісторыі краіны і інстанцыяй для параўнання, а цяперашні рэжым — выратавальнікам, які вярнуў шчаслівае мінулае, ну, ці хаця б вельмі імкнецца да гэтага. Для іх рэжым — апошні аплот, паколькі яны добра разумеюць, што любы новы парадак будзе пабудаваны на іншых падставах, на іншых уяўленнях аб развіцці.

### Паталагічная боязь змяненняў

На самай справе, імкненне да ўстойлівасці — нармальная характарыстыка любой сістэмы, грамадскай у тым ліку. Людзі ў большасці сваёй зусім не імкнуцца да пераменаў саміх па сабе, і нават асцерагаюцца іх. Доля тых, хто па натуры скіраваны да зменаў, любіць іх і адчувае сябе камфортна ў пастаянна зменлівых умовах (сёння мы называем іх «інаватарамі»), невысокая ў любым грамадстве, любой культуры, любой цывілізацыі. Развіццё немагчыма без іх, аднак устойлівасць і захаванне чалавечага агульнажыхарства была б немагчымая без тых, хто не спяшаецца змяняцца і любіць лад жыцця, які склаўся, захоўвае вернасць засвоеным каштоўнасцям, традыцыям, узнаўляе ўстояныя сацыяльныя практыкі. Аднак у некаторых выпадках здаровы «кансерватызм» трансфармуецца ў паталагічны страх таго, што любыя змены прывядуць толькі да горшага. Ніякія рацыянальныя довады не могуць перамагчы гэтага страху — страху страціць свой, магчыма, не вельмі шчаслівы, але звыклы свет.

### Грамадзянскі інфантылізм

Хоць мы ўсе маем беларускае грамадзянства, Беларусь на самай справе сёння складаецца з людзей у розных «агрэгатных станах»: з «грамадзян» і з «падданых». Людзям, якія жывуць у стане падданых, вельмі цяжка зразумець людзей, якія дзейнічаюць як грамадзяне. Немагчыма паверыць у тое, што хтосьці самастойна можа ставіць мэты — не ў прасторы свайго прыватнай жыцця, а ў прасторы жыцця грамадскага — і без вонкавага кіраўніцтва рухацца да іх. Менавіта гэта «немагчыма ўявіць» прыводзіць да таго, што ўсе, хто выступае супраць парадку, які склаўся, успрымаюцца альбо як «найміты», альбо як ахвяры падману, то-бок людзі не дарослыя і не самастойныя. З пункту гледжання «падданых», мець і рэалізоўваць уяўленні пра агульнае дабро могуць толькі людзі, надзеленыя ўладай, але ніяк не яны самі і такія ж, як яны, — суседзі, калегі па працы, сябры дзяцінства.

### Побытавы этатызм

Абсалютызацыя ролі дзяржавы (для апошняй чвэрці стагоддзя нашага жыцця вельмі характэрная) прыводзіць да таго, што людзі пачынаюць ставіцца да яе не як да сацыяльнага ўтварэння, а як да чагосьці тагасветнага, што не падлягае ўплыву і змене з боку простых людзей, таму, хто жыве па сваіх законах. Часцей за ўсё такое здараецца з людзьмі, якія альбо ніколі не задумваліся, альбо не ў стане задумацца пра тое, як, уласна, функцыянуе дзяржава і «адкуль яна бярэцца». Чаму гэта прыводзіць да падтрымкі дзеючага рэжыму? Таму што барацьба з парадкам, які склаўся, для такіх людзей — альбо зло, альбо глупства.

Яшчэ горш, калі побытавы этатызм ускладняецца гіпертрафаваным геапалітызмам, гэта значыць, калі акрамя ўласнага Левіяфана галоўнай рэальнасцю становіцца свет як шахматная дошка, на якой невядомыя сілы гуляюць ужо не людзьмі, а дзяржавамі. І ўжо не важна, якая менавіта сусветная змова стаіць за гэтым усім — сіяністы, янкі або ўсходнія браты.

Напэўна, гэты шэраг можна было б працягнуць. Усе гэтыя асаблівасці поглядаў, установак ды светапоглядаў існавалі раней і будуць існаваць потым, у новай Беларусі. Але сёння да розніцы нашых палітычных, ідэалагічных, эстэтычных уяўленняў, а таксама стэрэатыпаў і памылак, дадаецца яшчэ адзін, вельмі важны план, які моцна мяняе акцэнты.

Беларускі філосаф, метадолаг Уладзімір Мацкевіч узводзіць адрозненні паміж людзьмі, якія сёння аказаліся па розныя бакі барыкады, да дзвюх этычных сістэм (паводле Уладзіміра Лефеўра). Адным з базавых прынцыпаў, якія падзяляюць гэтыя сістэмы, з'яўляецца падзел прынцыпу «мэта апраўдвае сродкі». Сапраўды, у сённяшняй Беларусі гэта пытанне можна зрабіць, мабыць, «праверачным» (прыкладна такім жа, якім калісьці было пытанне «Чый Крым?», але значна больш прынцыповым). Ці можаш ты апраўдаць гвалт і беззаконне добрымі мэтамі, імкненнем да стабільнасці, амерыканскай пагрозай? Ці, нават не падзяляючы памкненняў тых, хто сёння выступае за перамены, не гатовы жыць у краіне, дзе за выказванне свайго пункту гледжання чалавека можна пазбавіць усіх правоў і нават беспакарана забіць? Крызіс, які разгортваецца, даўно выйшаў за рамкі палітычнага ці ідэалагічнага і ўпіраецца ў базавыя этычныя нормы. І чым далей, тым менш шанцаў застацца ўбаку. Кожнаму прыходзіцца займаць бок. Той ці іншы.

**Belarus Security Blog, пераклад НЧ**

# Ні налева, ні направа — свабодна!

## Як можа быць развязаны беларускі палітычны крызіс

Сяргей ПУЛЬША

**Перад Новым годам Лукашэнка казаў, што «дэструктыўныя сілы» абяцаюць наладзіць яму сюрпрызы ў навагоднюю ноч. І, маўляў, «мы» — як звычайна — да гэтага гатовыя. Сюрпрыз беларусы сапраўды зрабілі, але не такі, пра які думаў Лукашэнка. На афіцыйныя навагоднія мерапрыемствы да елак, абкружаных АМАПам, амаль ніхто не прыйшоў.**




Паводле назіранняў TUT.BY, ля «галоўнай ялінкі краіны» на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску Новы год сустракалі каля 700 чалавек. Раней міліцыя аператыўна давала справаздачу, колькі мінчукоў наведалі елкі на Новы год. У 2018 годзе было, напрыклад, 110 тысяч чалавек. Цяпер у паведамленні гаворыцца толькі, што «аператыўная абстаноўка ў краіне заставалася кантраляванай». Пра колькасць наведвальнікаў святаў — ні паўслова.

Па-мойму, гэта яркі паказчык — калі ты робіш свята, а да цябе ніхто не прыходзіць. І менавіта такое стаўленне народа да сённяшняй улады перадвызначае далейшае развіццё сітуацыі ў Беларусі.

Пакуль палітолагі вызначаюць некалькі сцэнарыяў развіцця сітуацыі ў Беларусі ў найбліжэйшай будучыні. Да чаго яны могуць прывесці?

### Сцэнар ваеннай дыктатуры

Першы і самы відавочны сцэнар — гэта сцэнар утрымання ўлады Лукашэнкам праз вайсковую дыктатуру. Варта зазначыць, што да яго мы цяпер ушчыльную падышлі. Бо што ёсць забарона на выезд з краіны, як не адзін з элементаў жорсткай дыктатуры?

Лукашэнка можа паспрабаваць застацца ва ўладзе «на штыках», або, як ён кажа, «да апошняга амапаўца». Дарэчы, супрацоўнікам АМАПа варта было б задумацца — Лукашэнка кажа пра сваю «апошнюю кроплю крыві», а пра іх жыцці. Сам ён сабою ахвяраваць не мае намеру, а вось іх, амапаўцаў, пусціць у расход — калі ласка.

Але пры вайсковай дыктатуры ён пражыве так, як казаў калісьці сам: дрэнна, але нядоўга. Як справядліва адзначалі розныя эксперты, сілавыя структуры вельмі эфектыўна марнуюць рэсурсы, але ствараць іх не здольныя. Такая мадэль доўга не праіснуе выключна па эканамічных прычынах.

Далёка хадзіць не трэба: ад пачатку пратэстаў — а дакладней, з моманту, калі галоўную ролю ў жыцці беларусаў пачалі адыгрываць АМАП і іншых сілавікі, — не прайшло і пяць месяцаў. А ўрад ужо вымушана падымае падаткі з 9% да 13% «свяшчэннай карове» беларускай эканомікі — Парку высокіх тэхналогій (варта адзначыць, што, у адпаведнасці з дэкрэтам Лукашэнкі №8 «Аб развіцці лічбавай эканомікі», спецыяльны прававы рэжым для ПВТ, уключаючы падатковы, замацаваны да 1 студзеня 2049 года, — але тут ужо не да законаў); з 18 да 30% павялічыў падатак на прыбытак для аператараў мабільнай сувязі; павысілі падатак тым, хто здае лецішчы, кватэры, гаражы і парковачныя месцы; мясцовым уладам дазволілі ўвесці збор за перасячэнне мяжы на машыне, і гэтак далей. А ў бюджэце прадугледжваецца дэфіцыт памерам у 4 мільярды рублёў.

«Венесуалізацыя» Беларусі можа расцягнуцца надоўга толькі ў тым выпадку, калі Лукашэнку будзе моцна падтрымліваць Расія. Грошы можна ўзяць толькі ў яе, аднак наўрад ці Пуціну спадабаецца пастаянна карміць Беларусь, як яшчэ шэсць датацыйных рэгіёнаў Расіі. Маскве самой грошай не хапае, а таму бясконца ўтрымліваць такі рэжым не здолее нават яна.

### Канстытуцыйная рэформа праз рэферэндум

Яшчэ адзін праект развіцця сітуацыі — рэформа Канстытуцыі, агучаная Лукашэнкам яшчэ да выбараў. Па задуме, у выніку павінна быць паслабленая прэзідэнцкая ўлада, больш паўнамоцтваў нададзена парламенту і мясцовым выканаўчым органам, а потым Лукашэнка сыходзіць на пенсію.

З гэтым варыянтам, быццам бы, згодная Расія. Прынамсі, кіраўнік расійскага МЗС Сяргей Лаўроў пастаянна згадвае канстытуцыйную рэформу ў кантэксце развязання беларускай праблемы.

Аднак тут ёсць адно вялікае пытанне: што мы хочам атрымаць у выніку канстытуцыйнай рэформы? На думку Лаўрова, гэта павінна вырашыць палітычны крызіс. Але шмат залежыць ад таго, якім чынам будзе прынятая новая Канстытуцыя. Плануецца, што на рэферэндуме. Але Лукашэнка хоча правесці гэты рэферэндум па старых лякалах: з кантраляванымі выбарчымі камісіямі, ранейшым складам Цэнтрвыбаркама, адсутнасцю паўнамоцтваў у назіральнікаў і гэтак далей.

Залішне казаць, што такі рэферэндум не вырашыць палітычны крызіс, а толькі паглыбіць яго. Паводле апошніх даных сацыёлагаў, Лукашэнку ў Беларусі падтрымліваюць не больш за 20% насельніцтва. Калі праводзіць рэферэндум адкрыта і свабодна, усе ініцыятывы Лукашэнкі будуць з грукатам праваленыя. Калі праводзіць яго «па-лукашэнкаўску», то ў выніку гэтага дзейства пратэсты толькі ўзмоцняцца. Бо іх прычына — якраз несумленныя, несвабодныя, скрадзеныя выбары.

А таму, нават калі пасля канстытуцыйнай рэформы Лукашэнка сыдзе, і на яго месца прыйдзе хто-небудзь іншы... Гэты «іншы» ўсё роўна сутыкнецца з неабходнасцю праводзіць сумленныя і адкрытыя выбары — бо менавіта іх патрабуе грамадства. Не выключана таксама, што давядзецца нават адмяняць вынікі несправядлівага рэферэндуму.

### Уся ўлада Усебеларускаму сходу?

Таксама палітолагі спрачаюцца, ці збярэцца Лукашэнка надаць канстытуцыйныя паўнамоцтвы Усебеларускаму народнаму сходу. Маўляў, гэта быў бы для яго адзін з варыянтаў выйсця: замяніць парламент сходам, ператварыць яго ў «з'езды КПСС», пакінуць прэзідэнцкую пасаду, стаўшы своеасаблівым «генсекам».

Ідэя, безумоўна, прывабная, і дзесьці нават вельмі прыгожая. Але, зноў жа, пытанне, што ёсць галоўнай мэтай: «выйсце для Лукашэнкі» або вырашэнне палітычнага крызісу? Калі «выйсце для Лукашэнкі», тады ідэя мае права на існаванне. Калі развязанне крызісу — ідэя праваленая. Грамадства ўспрыме УНС так, як і рэферэндум з загадзя вядомымі лічбамі: пратэсты за «права голасу» працягнуцца. Затое дадасца працы сілавікам: замест аднаго Лукашэнкі іх прымусяць ахоўваць яшчэ і 2500 чальцоў «з'езда КПСС», на якіх будзе вылівацца народнае абурэнне, і не толькі ў перыяд пасяджэнняў.

### Самы неймаверны сцэнар

Гэты неймаверны сцэнар палягае ў тым, што «пратэсты здзьмуваюцца», а беларусы пагаджаюцца «перагарнуць старонку» (як іх і прасіў пакуль яшчэ кіраўнік дзяржавы ў навагоднім віншаванні) і жыць так, нібыта не было гэтых месяцаў пасля 9 жніўня.

Але як «разбачыць» тое, што мы бачылі? Як цяпер адмовіцца ад той салідарнасці, якую мы адчулі ў гэтыя дні? Куды падзець перажытыя намі жах, надзею, узнёсласць? На якую палічку пакласці сцяг раёнаў і дваровыя тэлеграм-каналы? Куды падзець тыя «суткі», што дзясяткі тысяч чалавек правялі на Акрэсціна і ў іншых ізалятарах? І як, нарэшце, забыцца пра нашых неверагодных жанчын — Святлану Ціханоўскую, Марыю Калеснікаву і Вераніку Цапкала?

Такога не будзе, пратэсты не спыняцца. Бо пратэсты — гэта не разавая акцыя, гэта працэс, які выяўляецца ў розных формах. Напрыклад, падвышэнне падаткаў, якое здзейсніў урад, прывядзе да іх «аптымізацыі» і шэрых схемаў сыходу ад іх — гэта таксама пратэст. І тое, што на ўладныя елкі амаль ніхто не з'явіўся, — пратэст таксама. Сцяг у акне, «Жыве Беларусь!» пры развітанні — пратэст таксама. Краіна ўжо не будзе ранейшай, пасту назад у цюбік не загоніш.

Наўрад ці гэты сцэнар магчыма ўвогуле разглядаць як верагодны.

### Выхад у адзін бок

Можна прыдумваць безліч варыянтаў, але, па-сутнасці, цяпер у Лукашэнкі не засталося ніякіх сцэнараў, якія дазволілі б яму «і рыбку з'есці», і ажыццявіць свае планы. Вырашыць палітычны крызіс можна толькі адным шляхам — правесці датэрміновыя, сумленныя і свабодныя выбары. І які б варыянт дзеянняў цяпер ні абраў Лукашэнка, усе далейшыя траекторыі сітуацыі зводзяцца менавіта да гэтай кропкі.

Нават калі Лукашэнка нейкім чынам прызначыць пераемніка, той пераемнік, роўна як і любы кіраўнік, які прыйдзе пасля Лукашэнкі, проста вымушаны будзе зрабіць гэты крок і абвясціць новыя выбары — з новым складам ЦВК, з новымі выбарчымі камісіямі, з допускам назіральнікаў і гэтак далей. Бо ўсе іншыя варыянты не дасягаюць галоўнай мэты — развязання палітычнага крызісу.

### Найверагоднае?

Адзін з найбольш рэальных варыянтаў для Лукашэнкі — гэта тое, што Байдэн прыме справы ў Белым Доме і дамовіцца з Пуціным пра «сцэнар Плахатнюка» — калі алігарх, які фактычна кантраляваў Малдову, быў вымушаны збегчы з краіны. Тады праеўрапейскі Апазіцыйны блок ACUM і прарасійская партыя сацыялістаў Ігара Дадона стварылі кааліцыю, каб адхіліць прыхільнікаў Плахатнюка ад улады. Новы ўрад падтрымалі ЗША, ЕС і Расія. У выніку Плахатнюк спешна паляцеў з краіны.

Палітолагі кажуць, што Масква «не прыспешвае» Лукашэнку з адыходам ад улады, бо не бачыць фігуры, на якую яна магла б «паставіць» у якасці новага беларускага кіраўніка. Але хутчэй, напэўна, Масква занепакоеная не фігурамі, а наогул будучым раскладам у Беларусі. Бо, як ні дзіўна, у нас фактычна няма жывой прарасійскай палітычнай сілы! Усе рэальныя палітычныя партыі — праеўрапейскія. Умоўна прарасійскай і больш-менш дзейснай можна лічыць Ліберальна-дэмакратычную партыю Беларусі Алега і Сяргея Гайдукевічаў. Але, па-першае, наўрад ці Пуціну спадабаюць абапірацца ў Беларусі на «жырыноўцаў», а па-другое, Алег Сяргеевіч падчас прэзідэнцкай кампаніі 2020 вельмі недарэчы перабег у лагер Лукашэнкі.

«Малдоўскі сцэнар» у Беларусі выглядае досыць верагодна, але Крэмль, хутчэй за ўсё, «будзе паглядзець» на саму Малдову. Там увосень замест прарасійскага кіраўніка Ігара Дадона прыйшла да ўлады праеўрапейская Мая Санду. Калі адносіны Расіі і Малдовы не сапсуюцца — то чаму б не паўтарыць і ў Беларусі?

Ёсць, праўда, яшчэ меркаванне, што і сам Пуцін можа не дасядзець гэты год на сваёй пасадзе.

### Ні налева, ні направа — свабодна!

Зрэшты, такія ж асцярогі адчуваюць і ў іншым лагеры. Перад новым годам міністр замежных спраў Украіны Дзмітрый Кулеба ў інтэрв'ю нямецкаму часопісу казаў, што Беларусь не зможа хутка разгарнуцца на Захад з-за ўплыву Расіі, «нават калі Лукашэнку замяніць на пасадзе іншы лідар».

Самае прыкрае, што ўсіх гэтых «прарасійцаў» і «празаходнікаў» мала хвалюе, чаго хочуць самі беларусы. Ці хочуць яны ўвогуле «разгортвацца» на Усход ці на Захад?

Апытанні Беларускай аналітычнай майстэрні ў пачатку 2020 года паказвалі, што прыхільнікаў аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву было каля 15%. Колькасць прыхільнікаў еўрапейскай інтэграцыі была каля 30%. А большасць беларусаў усё ж хочуць жыць у сваёй краіне. Не ў ЕС. Не ў Расіі. А ў Беларусі.

# На словах усё прыгожа

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Насуперак прагнозам аналітыкаў, у Новы год Беларусь увайшла без традыцыйнай «нафтагазавай спрэчкі» Беларусі і Расіі. Бакі дамовіліся пра пастаўкі энерганосьбітаў у Сінявокую адносна задоўга да звону крамлёўскіх курантаў. Толькі ўсё ж узнікае пытанне: добра гэта ці дрэнна?**



Фота www.foolcdn.com

Перад новым годам, наведваючы «Беларуськалій», прэм'ер-міністр Беларусі Раман Галоўчанка заявіў, што ўраду ўдалося дамовіцца з Расіяй пра пастаўкі нафты і газу на выгадных умовах. «Як заўсёды, перамовы любога роду суправаджаюцца пэўным гандлем адносна ўмоў. Але ў прынцыпе ўсё скончылася для Беларусі на добрых, выгадных умовах», — сказаў ён.

Але ці так гэта на самай справе? Бо ўсё выглядае на тое, што беларускі бок, верагодна, з палітычных прычынаў, проста «падмахнуў» усё тое, што прапанавала Расія.

## Газ

Прэм'ер, выступаючы на «Беларуськаліі», не стаў канкрэтызаваць дамоўленасці. Ён толькі сказаў, што цана на газ «захавалася практычна на ўзроўні 2020 года».

«Калі казаць пра бягучы ўзровень цэн на сусветных валютных рынках, то Беларусь купляе газ практычна ў два разы танней у параўнанні з сусветнымі цэнамі, якія складваюцца», — сказаў Галоўчанка.

Трэба адзначыць, што ў апошнія тыдні кошт газу на еўрапейскіх гандлёвых пляцоўках сапраўды вырас, аднак у першай палове года ў перыяд падзення коштаў на еўрапейскіх газавых хабах, Беларусі даводзілася плаціць больш, чым спажыўцам ЕС, што выклікала абурэнне Лукашэнкі.

Ва ўжо мінулым годзе Беларусь плаціла за расійскі газ 127 долараў за тысячу кубаметраў. Аднак, на самай справе, усё залежыць ад методыкі падліку. «Газпрам Беларусь» сапраўды імпартуе расійскі газ па 127 долараў за тысячу кубоў (кошт вар'іруецца ў залежнасці ад якасці газу). Але пры гэтым ён дадае сваю нацэнку ў 20 долараў і ПДВ. Такім чынам, «Белпалівагаз», які затым рэалізуе газ унутры краіны, купляе сыравіну па рэальным кошце ў 176–180 долараў за тысячу кубоў.

Калі сыходзіць са словаў Галоўчанкі, «сусветныя цэны ў два разы даражэйшыя за беларускія» — гэта 254 долара па ніжнім паказчыку (уваходзе ў Беларусь) і 352–360 долараў па рэальным беларускім паказчыку.

На галоўнай еўрапейскай гандлёвай пляцоўцы, хабе TTF у Нідэрландах, 29 снежня 2020 года спотавая цана на газ складала 17,529 еўра за 1 мегават. Па еўрапейскіх правілах, бярэм верхні каэфіцыент цеплатворнасці ў 11,28 — і атрымліваем цану ў 197,7 еўра за тысячу кубоў, пераводзім у долары па $1,22 за еўра і атрымліваем 241 долар за тысячу кубаметраў.

Калі пералічыць па максімальным каэфіцыенце цеплатворнасці 9,5, які выкарыстоўвае Украіна, то цана выйдзе значна ніжэйшай — 203 долары за тысячу кубаметраў. Звычайна ж цеплатворнасць расійскага газу Украіна ацэньвае ў 8,0 — 8,3, што дае 177,5 долара за тысячу кубаметраў.

Такім чынам, «льготная цана» для Беларусі па рэальным уваходзе — цане для «Белпалівагаза» — цалкам супастаўная з нармальнай і далёка не «льготнай» цаной тысячы кубаметраў газу для Украіны.

Пры гэтым Беларусь спажывае каля 20 мільярдаў кубаметраў газу за год.

## Нафта

Што тычыцца коштаў нафты, то і тут прэм'ер не агучыў канкрэтныя ўмовы кантракту. Вядомыя толькі аб'ёмы пастаўкі. Па словах Галоўчанкі, яны будуць вызначацца мэтазгоднасцю. «Але расійскі бок гатовы паставіць пад максімальны аб'ём фактычна столькі, колькі для нас будзе выгадна перапрацоўваць. Там 18 мільёнаў тон, то будзем перапрацоўваць столькі. Будзе залежаць, вядома, ад сітуацыі на рынку», — сказаў ён.

Таксама вядома, што ў новым годзе Расія не будзе кампенсаваць Беларусі частку прэміі пастаўшчыкам нафты, як яна рабіла гэта пасля маштабнай нафтавай спрэчкі ў першай палове 2020 года. Тады бакі дамовіліся, што расійскі бюджэт праз механізм міжбюджэтных разлікаў кампенсуе Беларусі частку прэміі ў цане нафты — 4,7 долара за тону нафты. Усяго «нафтавая прэмія» плюсавала да цаны сыравіны каля 12 долараў.

Цяпер гэтай кампенсацыі не будзе, дый і не павінна быць. Міністр энергетыкі Расіі Аляксандр Новак казаў, што дамоўленасць аб кампенсацыі нафтавай прэміі дзейнічае толькі ў тым выпадку, калі кошт нафты ў свеце не перавышае 40–45 долараў за барэль. Цяпер сусветная цана нафты павысілася да 45–50 долараў за барэль. Ці дзейнічала «кампенсацыйная зніжка» пасля павышэння коштаў? Публічна пра гэта ні адзін з бакоў не казаў.

Акрамя таго, у Расіі працягваецца «падатковы манеўр» — замена экспартнай пошліны на нафту ўнутраным падаткам на здабычу карысных выкапняў. І таму колькасць грошай, якія Беларусь пакідала ў сябе (экспартную пошліну на нафту мы не пералічвалі ў расійскі бюджэт, і за яе кошт «зніжаўся» кошт нафты) паступова скарачаецца. Калі ў мінулым годзе беларускія НПЗ купілі расійскую нафту па цане, якая складала 85% ад сусветнай, то ў гэтым, новым годзе яна падвысіцца, паводле дадзеных «Белнафтахіма», да 88–90% ад сусветнай.

У цэлым беларускі ўрад ацэньвае прамыя страты даходаў бюджэту ў 2021 годзе толькі ад рэалізацыі падатковага манеўру ў суму каля 350 мільёнаў рублёў.

Таму пытанне пра кошт нафты ў яе грашовым выразе застаецца адкрытым. Цяпер цана на нафту для Беларусі вызначаецца, зыходзячы з сярэднямесячных каціровак Urals у Паўночна-Заходняй Еўропе і Міжземнамор'і за мінусам экспартнай пошліны на нафту і транспартных выдаткаў. Цяпер сусветная цана гэтай маркі нафты складае каля 50 долараў за барэль. Беларускі бюджэт–2021 разлічаны, зыходзячы з цаны на нафту маркі Urals у 40 долараў за барэль.

Аднак усё можа памяняцца хутка, істотна і нечакана — дакладна гэтак жа, як і ніхто не чакаў «нафтавага крызісу» 2020 года, калі цэны на нафту ўпалі ледзь не да 4 долараў за барэль, а цана Urals у пэўны перыяд і зусім была адмоўнай. Выклікана гэта было, вядома ж, «каронавірусным лакдаўнам»: імкнучыся спыніць пандэмію, многія краіны закрылі свае межы на ўезд замежнікаў. Адпаведна, істотна скараціліся авія- і транспартныя перавозкі (асабліва пасажырскія), і, як вынік, істотна ўпаў попыт на паліва — нафтапрадукты.

Цяпер сітуацыя больш прадказальная, паколькі свет навучыўся жыць ва ўмовах пандэміі. Паводле Маскоўскага нафтагазавага цэнтра кампаніі EY, у 2021 годзе глабальны рынак нафты ўстане на шлях аднаўлення пасля першага ў яго гісторыі «шоку попыту». Аднак чаканая велічыня прыросту не перакрые падзення бягучага года, і цалкам магчыма, што да канца года аб'ёмы здабычы нафты яшчэ не вернуцца да дакрызіснага ўзроўню. Як вынік, лічаць эксперты, бягучы дыяпазон коштаў на нафту ў 50–55 долараў за барэль, дасягнуты за апошнія месяцы, верагодна, захаваецца і ў 2021 годзе.

Але гэта — усяго толькі меркаванні экспертаў. Сітуацыя, нягледзячы на «большую прадказальнасць», усё роўна ў любы момант можа павярнуцца ў любы бок. Напрыклад, транспартныя выдаткі, — а значыць, і спажыванне нафтапрадуктаў, — могуць узрасці з-за дастаўкі вакцыны ад Sars-Cov-2 у розныя кропкі планеты. А з іншага — новы, больш заразны штам каронавіруса, выяўлены ў Вялікабрытаніі і некаторых краінах Еўропы, можа, наадварот, прывесці да новага «лакдаўну» і закрыцця межаў (што, уласна, ужо адбываецца).

Пакуль у свеце — калядныя вакацыі, таму невядома, як павядзе сябе рынак той жа нафты.

## Беларуская АЭС

Галоўчанка таксама вельмі ўразіў нас яшчэ адной лічбай. «Толькі за кошт уключэння ў сістэму першага энергаблока (Беларускай АЭС. — НЧ) і эканоміі пэўнага аб'ёму прыроднага газу ў дзень краіна эканоміць парадку 750 тысяч долараў, — сказаў прэм'ер, дадаўшы, што цяпер першы рэактар працуе на 75% магутнасці. — Але ўжо пэўны аб'ём газу мы замяшчаем, і такую суму для краіны эканомім».

Пакуль гэтая эканомія, хутчэй, віртуальная, — адбор газу Беларусь не скараціла. Але лічба ўражвае. Праўда, уражвае яна да таго моманту, пакуль не возьмеш у рукі калькулятар.

750 тысяч долараў у дзень — гэта ў сярэднім 274 мільёны долараў на год. Дапусцім, з увядзеннем другога энергаблока гэтая лічба падвоіцца і складзе 548 мільёнаў долараў на год. Але пры гэтым варта ўлічыць, што станцыя пабудаваная ў крэдыт, за 10 мільярдаў долараў.

Такім чынам, для таго, каб станцыя хоць бы абстрактна «выйшла ў нуль», нам спатрэбіцца каля 20 гадоў яе працы (улічваючы, што крэдыт, як правіла, выплачваецца з працэнтамі).

Расійскія 10 мільярдаў долараў нам выдадзеныя на 25 гадоў. Нібыта, мы і можам расплаціцца. Але «эканомія Галоўчанкі» не ўлічвае выдаткаў на эксплуатацыю самой станцыі, уключаючы закупку паліўных стрыжняў, іх абслугоўванне і замену. Каштуе ядзернае паліва вельмі дорага, таксама не вырашана да канца пытанне з утылізацыяй адкідаў станцыі. У любым выпадку, атрымліваецца, што «зэканомленыя» на ўводзе ў эксплуатацыю АЭС грошы мы ўсё роўна будзем перадаваць Расіі — за паліва для станцыі, за крэдыт, і гэтак далей.

Такім чынам, адчувальнага эканамічнага эфекту ад Беларускай АЭС мы не ўбачым і не памацаем рукамі каля 30 гадоў. Пры гэтым, як піша Вікіпедыя, нарматыўны тэрмін эксплуатацыі атамных энергаблокаў звычайна складае 30–40 гадоў.

Таму дагэтуль застаецца адкрытым пытанне: ці патрэбны нам той «праект стагоддзя», ці не больш выгадна было б нам не будаваць атамную станцыю, а проста плаціць Расіі за прыродны газ? Бо нават у доўгатэрміновай перспектыве (30 гадоў я лічу доўгатэрміновай перспектывай) выходзіць, што гэтая станцыя ў фінансавым плане будзе працаваць не на Беларусь, а выключна на Расію.




Фота www.belatom.by

# «Калі чалавек робіць згодна з ягонае жыццё не можа быць

**Паводле звестак праваабаронцаў, у спісе палітвязняў цяпер 169 прозвішчаў. За гэтай сухой лічбай стаяць 169 сем'яў, якія чакаюць блізкіх на волі і сумуюць па іх. Акрамя таго на сутках у навагоднюю ноч заставалася 112 чалавек. Усе гэтыя людзі аказаліся за кратамі толькі таму, што хацелі жыць у лепшай краіне. Але свабоду кратамі не стрымаць, а прагу да волі не знішчыць. Мы жадаем усім палітвязням хутчэйшага вызвалення, а іх родным моцы і веры ў лепшае.**

## Ігар ІЛЬЯШ: Мая каханая!

Пісаць жонцы ў турму — гэта цяжкае пакаранне. Віншаваць жонку ў турме з навагоднімі святамі і рабіць гэта праз адкрыты ліст, бо звычайныя лісты да яе не прапускаюць цэнзары, — пакаранне яшчэ больш цяжкае. Але я проста не маю іншай магчымасці сказаць табе: «З Новым годам і Калядамі!»



Кацярына Андрэева

Ці разумелі мы, што такое з намі можа здарыцца? Канешне. Памятаеш, як мы яшчэ ў ліпені склалі для нашых блізкіх «памятку сваякам палітвязняў»? Гэта была своеасаблівыя інструкцыя на той выпадак, калі нас абодвух арыштуюць. У гэтым сэнсе ты мела пэўную фору перад некаторымі іншымі зняволенымі — думаю, шмат хто з іх нават не ўяўляў сабе, што выказванне свайго меркавання, сумленнае выкананне сваіх прафесійных абавязкаў або проста праява салідарнасці можа каштаваць ім свабоды. На жаль, многія беларусы да 2020 года да канца не разумелі, у якой краіне жывуць. А вось мы з табою цудоўна ўсведамлялі гэта і рыхтавалі сябе да таго, што за нашы перакананні мы можам трапіць у турму. І яшчэ лепш мы разумелі, што ва ўмовах нараджэння беларускай палітычнай нацыі, ва ўмовах абуджэння грамадства, рызыка павялічваецца ў разы, бо цяпер уладам будзе ўжо не да «лібералізацыі» і не да флірту з Захадам.

Я добра памятаю гэтае адчуванне надыходзячай лавіны, надыходзячага апакаліпсісу ў пачатку жніўня, яшчэ да выбараў. Хутка пагроза стала татальнай, пераўтварыўшыся ў неад'емную частку нашага жыцця. 10 жніўня каля метро «Пушкінская» побач з табою разарвалася граната, цябе ратавалі ад сілавікоў жыхары суседніх дамоў, і я да глыбокай ночы не ведаў, ці жывая ты. У канцы таго ж месяца цябе забралі на 24 гадзіны. У верасні — на 72 гадзіны, ты правяла іх на Акрэсціна. Кожную нядзелю, сыходзячы на стрым, ты брала з сабою «трывожны чамаданчык» з рэчамі для турмы. Кожную нядзелю мы разумелі, што сёння ты можаш дадому не вярнуцца. І аднойчы сапраўды не вярнулася: вось ужо другі месяц ты застаешся за кратамі паводле абсурднага абвінавачвання.

Мне пашанцавала трохі больш — я правёў за кратамі толькі 15 сутак (насамрэч, мне пашанцавала значна менш, бо я б задавальненнем памяняўся з табою месцамі — хаця ты наўрад ці б ты на гэта пагадзілася). Аднак справа, канешне, не ў колькасці праведзеных за кратамі дзён. Адзін з герояў «Ракавага корпусу» Аляксандра Салжаніцына сцвярджаў: «Самае цяжкае жыццё зусім не ў тых, хто тоне ў моры, рыецца ў зямлі або шукае ваду ў пустынях. Самае цяжкае жыццё ў таго, хто кожны дзень, выходзячы з дому, б'ецца галавой аб вяршнік — занадта нізкі». Калі верыць гэтай думкі — у нас дакладна не самае цяжкае жыццё. Сваімі ўчынкамі ў журналістыцы, сваімі паводзінамі ў якасці палітвязня за кратамі — ты дэманструеш сапраўдную веліч чалавечага духа. Калі б такіх людзей, як ты ды іншыя палітзняволеныя, не існавала, то звацца «чалавекам» ужо даўно было б сорамна.

Цяпер наша Беларусь перажывае страшныя, цёмныя часы. Я ведаю, што шмат у каго натхненне барацьбы і вера ў хуткую перамогу змянілася стомленасцю і дэпрэсіяй. Так, мы змагаліся, мы рызыкавалі сабою — але чаму не змагаліся іншыя?.. Мяркую, што тыя ж псіхалагічныя арэлі праходзяць у турмах і палітвязні, толькі ў значна больш вострай форме. Гэта цалкам натуральна і непазбежна ў такіх умовах. Гэтак сама непазбежна і тое, што стомленасць і дэпрэсія хутка зменяцца новым натхненнем і прылівам сілаў. І, нарэшце, перамогай. Бо аб'ектыўныя законы гісторыі яшчэ ніхто не адмяняў — як бы гэтаму ні працівіліся людзі са зброяй у руках.

Каця, я магу табе пажадаць у 2021 годзе толькі аднаго: свабоды. Каб мы маглі як мага хутчэй абняць адно аднаго, пацалаваць і пагутарыць без перашкодаў турэмнага цэнзара. Каб ты магла пабачыць бацькоў, бабулю і дзядулю, сяброў і калегаў. Каб ты магла зноў займацца сваёй любімай справай — журналістыкай. Усё астатняе, акрамя свабоды, ты маеш і так.

І яшчэ. У гэтым снежні мінула чацвёртая гадавіна нашага шлюбу. У 2016-м мы паехалі ў вясельнае падарожжа ў Малагу. У 2017-м святкавалі гадавіну ў Рыме, у 2018-м — на Сардзініі. Ты заўсёды сама выбірала месца нашага святочнага адпачынку, бо ў цябе цудоўны густ. Але дазволь мне ў 2021 годзе зрабіць гэта ўсё ж самому. Я хачу, каб пятую гадавіну стварэння нашай сям'і мы святкавалі ў Новай Беларусі.

Я ўпэўнены, што ты падтрымаеш маю прапанову. Тым больш, што мы проста абавязаныя будзем там сустрэць гэтыя дні, а ў снежні 2021 года такая магчымасць, я веру, ужо з'явіцца.

Трымайся, Кацюша! Маё каханне дапаможа табе ўсё пераадолець.

**P.S.** Вядомая савецкая дысідэнтка Наталля Гарбанеўская, удзельніца «дэманстрацыі семярых» супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну, казала: «Калі чалавек дзейнічае згодна з сумленнем, ягонае жыццё не можа быць знявечана». Тут я дадаць магу толькі адно: гэта вялікае шчасце, што мы з табою гэтую думку цалкам падзяляем. Менавіта таму мы заўсёды будзем разам і заўсёды будзем шчаслівы!

## Дар'я РАДЗЬКОЎСКАЯ: Прывітанне, мамачка!

Пішу табе з тваёй роднай вёскі. Ужо наелася бабулінага баршчу, выпіла гарбаты з тортікам. Пасмяяліся, як заўсёды, з дзядулем. Ведаеш, у іх стаіць такая прыгожая елка, як у тваім дзяцінстве: з савецкімі навагоднімі цацкамі і срэбным дожджыкам. Абавязкова сфатаграфую, каб ты, як вернешся дадому, убачыла гэты маленькі цуд.



Кацярына Барысевіч

Як у цябе справы? Ці добра ясі? Ці трымаеш свае ножкі ў цяпле? Якую кніжку зараз чытаеш? Калі ласка, пішы пра ўсё падрабязна. Хачу падзяліцца, мамачка, з табою маленькай радасцю. Амаль пасля месяца блуканняў я вярнулася нарэшце дадому. Цяпер я зноў магу ляжаць пад любімым таршэрам і ўспамінаць нашы сямейныя вечары. Я адразу зрабіла генеральную ўборку, залезла ў кожны куточак кватэры, вынесла 3 пакеты ўсяго непатрэбнага (на мой погляд). Так што Новы год пачну з «чыстага аркуша».

Учора вярталася з крамы, дык пачаўся такі снегапад (а ў вёсцы снегу зусім няма). Я некалькі хвілін стаяла і лавіла сняжынкі. Адчула сябе так лёгка і бесклапотна — даўно так не было.

Нядаўна адправіла табе паштоўку з дзвюма совамі. Прызнайся, ці атрымала яе? Памятаеш, я расказвала табе пра шопер? Дык вось, я яго ўжо забрала і хаджу з ім такая ўся модная.

Пра нашы сумесныя планы. Што мы з табой зробім найперш, як усё скончыцца? Куды пойдзем на каву? А як ты глядзіш на «марафон» фільмаў пра Італію? Я столькі ўсяго запланавала, засталося толькі цябе дачакацца. Толькі напісала пра Італію, як бабуля перадала паштоўку з савой ад цябе, дзе ты прыгадваеш пра наша падарожжа ў Сарэнта. Соўлмейты, менавіта так.

Я цябе вельмі люблю, дарагая. Пастаянна перачытваю твае лісты, яны падымаюць мне настрой. Дзякуй табе вялікі. Мы ганарымся табой, заўсёды памятай пра гэта. Бабуля з дзядулем перадаюць табе прывітанне і моцна абдымаюць. А я цалую ў носік. Да пабачэння, мая дарагая!

**P.S.** Праверым, ці памятаеш ты яшчэ англійскую мову. Будзем лічыць, што я замовіла для цябе песню на Новы год:

*Dancing in my room, swaying my feet*
*Tryna give you love and a kiss on the cheek*
*Cotton candy skies like I'm stuck in a dream*
*And I've been feeling blue, you're the one that I need*
*And baby, yeah, you give me reasons*
*Just to fight all of my demons*
*Yeah, I love it when you're speaking*
*'Cause you silence all my feelings.*

## Надзея ЗЕЛЯНКОВА: «Я веру, што ўсё зменіцца»

Вядомага бізнесоўца Аляксандра Васілевіча гэтым летам затрымлівалі двойчы. Першы раз ён прыйшоў у КДБ падаць хадайніцтва пра змену меры стрымання Віктару Бабарыку — і ў выніку атрымаў 14 сутак. У канцы жніўня быў зноў затрыманы — гэтым разам прадстаўнікамі ДФР, і з тых часоў знаходзіцца пад вартай. 2 снежня ў яго нарадзілася дачка Уршуля.

Жонка палітвязня Надзея Зелянкова не хавае, што цяжарнасць праходзіла ў вельмі няпростых абставінах. Разам са старэйшай дачкой Адэляй ёй давялося з'ехаць з краіны. На шчасце, роды прайшлі добра. Надзея паказала мужу фота нованароджанай дачкі па пошце — гэта пакуль адзіная сувязь з мужам.

Старэйшая дачка Адэля дапамагае маці пісаць лісты і малявалць паштоўкі. Што цікава, пытанняў пра тое, калі тата вернецца дадому, амаль не задае.

— Мабыць, яна разумее, што ў мяне няма на гэтыя пытанні адказаў. Я ж першапачаткова ёй распавядала ўсё як ёсць. Лічу, што яна ўжо дастаткова дарослая, каб разумець, — кажа Надзея.

Дзяўчынка, вядома ж, сумуе па тату. Яны любілі бавіць час разам — хадзілі па выхадных на кніжныя выставы, у кафэ, шмат гулялі. Усе перамяшчэнні па горадзе — у школу і на гурткі — былі на бацьку. Сёння гэтай дапамогі сям'і вельмі не хапае.

— Вядома, я веру, што ўсё зменіцца, але калі — заўтра ці паслязаўтра — сказаць пакуль складана.



Надзея Зелянкова з Уршуляй і Адэляй

## Вікторыя ПАЛЬЧЫС: «Хутка муж вернецца дадому»

Палітычны блогер і актывіст Эдуард Пальчыс таксама вымушана прапусціў нараджэнне дачкі 16 снежня. Гэтым летам ён двойчы быў асуджаны на 15 сутак, але так і не выйшаў на волю. Пазней яму прад'явілі абвінавачванне па крымінальным артыкуле. Імя нованароджанай дачцэ давялося выбіраць праз адваката.

— Наогул у нас былі розныя варыянты імёнаў, а потым я



Вікторыя і Эдуард Пальчысы

прапанавала назваць дачку Эміліяй. Адвакат перадала гэта мужу — і яму спадабалася, так і дамовіліся, — распавядае падрабязнасці жонка палітвязня Вікторыя.

# сумленнем, знявечана»

Эмілія нарадзілася не ў Беларусі, хоць муж і жонка да апошняга не хацелі нікуды з'язджаць і адкладалі гэтае рашэнне. У той дзень, калі цяжарная Вікторыя перасекла мяжу, Эдуарда затрымалі.

— Як толькі я нарадзіла, адразу ж перадала фота дачкі мужу праз адваката. Так што дачку тата бачыў, яшчэ пасмяяўся, што Эмілія занадта да яго падобная, а для дзяўчынкі гэта «не вельмі», хай лепш будзе падобная да мамы.

Эдуард піша, што часам глядзіць у ізалятары праграмы пра бацькоўства — такім чынам хоча падрыхтавацца да новага вопыту ў жыцці. Вікторыя мяркуе, што ён будзе выдатным бацькам.

— Ён вельмі перажывае праз тое, што прапускае гэты час, і нават не ведае, у якім узросце ўбачыць сваю дачку. А я веру, што зусім хутка муж вернецца дадому. Іншых думак сабе не дазваляю, хоць як будзе на самай справе, вядома, ніхто не можа прадказаць.

### Дар'я ЛОСІК: «У Паўліны тата з вялікай літары»

Адміністратара тэлеграм-канала «Беларусь галаўнога мозгу» Ігара Лосіка затрымалі яшчэ ў чэрвені. І вось ужо паўгода ён не бачыў сваю дачку Паўліну. Да таго, як іх разлучылі, малая ледзь толькі навучылася хадзіць. А цяпер ужо на ўсю моц балбоча — 4 студзеня ёй споўнілася роўна два гады.

— Наконт дня нараджэння дачкі муж перажывае больш за ўсё, вельмі сумуе, што яго прапускае, — распавядае Дар'я Лосік. — Наогул, ён такі надзвычайны Бацька, проста з вялікай літары! Гэта яго доўгачаканае дзіця, і ён вельмі хацеў менавіта дачку. Імя сам выбіраў, за суткі да таго, як мне зрабілі кесарава, напісаў, што ў нас будзе Паўліна. Я пагадзілася. З 2–3 месяцаў Ігар мог спакойна заставацца з дачкой, адпускаў мяне па справах. Ён быў паўнавартасным бацькам,



Дар'я Лосік з Паўлінкай

цалкам акунуўся ў яе жыццё.

Цяпер бацька бачыць дачку і жонку толькі на фота. Піша, што вельмі сумуе і «будзе змагацца да канца». Рашучасць мужа збольшага палохае Дар'ю: 15 снежня, пасля чарговага абвінавачвання паводле крымінальнага артыкула, Ігар абвясціў галадоўку. І да гэтага часу не змяніў свайго рашэння.

— Самаадчуванне ў яго цяпер нядрэннае, яму часта вымяраюць ціск, ён п'е ваду, я яму прэпарат перадавала для папаўнення запасаў солі. Але мне неспакойна, я нават не ведаю, чым сябе адцягнуць, каб не думаць пра яго... Я разумею, чаго ён хоча дамагчыся галадоўкай, але мне патрэбен здаровы і жывы муж. Мне страшна за яго, вельмі страшна.

— Кожны вечар Паўліна бярэ мой тэлефон, — распавядае Дар'я. — На застаўцы стаіць фотаздымак Ігара. Дачка прыносіць свае цацкі, посуд, пачынае тату карміць... дасылае паветраныя пацалункі, кажа «тата».

### Наталля САРОКІНА: «Ён мог бы аказваць дапамогу пацыентам»

Лекара-анестэзіёлага Арцёма Сарокіна затрымалі 19 лістапада ў сувязі з крымінальнай справай аб нібыта «раскрыцці медыцынскай таямніцы» забітага рамана Бандарэнкі. Лекар паведаміў журналісту TUT.BY пра адсутнасць у крыві пацыента алкаголю, што супярэчыла заяве ўладаў. Цяпер і Арцём Сарокін, і журналістка Кацярына Барысевіч знаходзяцца ў СІЗА-1 на Валадарскага. У Арцёма дома засталося трое маленькіх дзяцей.

Па словах жонкі палітвязня Наталлі Сарокінай, старэйшыя



Міша, Фёдар і Лія Сарокіны

сыны ведаюць усю праўду аб затрыманні бацькі, а малодшая дачка перакананая, што «тата ў камандзіроўцы». Дзяўчынка пастаянна просіць патэлефанаваць бацьку, пытаецца, чаму яны не могуць да яго прыехаць. Малая просіць перадаць тату ў лісце, што вельмі па ім сумуе.

— Нам яго вельмі не хапае. Нягледзячы на стомленасць, вечарам пасля працы ён заўсёды важдаўся з дзецьмі, перад сном любіў з імі чытаць. Мне запомнілася, як падчасператрусу мужчыны, якія да нас прыйшлі, дасталі з-пад ложка дзіцячую кніжку і старанна яе гарталі, нешта ў ёй, мабыць, падазронае шукалі. А гэта проста кніжка, якую Арцём чытаў дачцэ перад сном.

У сям'і ведаюць, што тата вельмі любіць рабіць сюрпрызы. У свой дзень нараджэння 28 снежня ён папрасіў знаёмую перадаць ад яго торт і падарункі дзецям. Гэта было поўнай нечаканасцю, кажа Наталля. Наталля піша мужу, каб ён «падзяліўся хаця б часцінкай сумлення з тымі людзьмі, якія яго не выпускаюць».

— Ён жа не небяспечны для грамадства, ён лекар! А цяпер многія хварэюць. Ён мог бы цяпер працаваць і аказваць дапамогу пацыентам, ён мог бы дапамагаць сваёй сям'і (яго мама зараз ляжыць у шпіталі з ковідам і пнеўманіяй, я таксама нядаўна перахварэла). Я, вядома, трымаюся, але калі яшчэ нядаўна верыла ва ўсе абяцанні, у змяненне меры стрымання, то цяпер, напэўна, стамілася і зразумела, што нічога не магу змяніць у гэтай сітуацыі. Усё, што магла, я зрабіла.

### Вольга СЕВЯРЫНЕЦ: «У лістах тата піша для Францішка казку»

Палітык, пісьменнік, сузаснавальнік партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Павел Севярынец быў затрыманы 7 чэрвеня па дарозе дадому. Пасля 75 сутак арышту на волю яго не адпусцілі, а перавялі ў СІЗА № 1 у статусе падазраванага па крымінальнай справе. Тыдзень таму стала вядома, што Паўлу працягнулі тэрмін утрымання пад вартай да 20 лютага 2021 года.

Дома палітыка чакае жонка Вольга Севярынец і сын Францішак, якому цяпер 2 гады і 9 месяцаў. Улетку, калі бацьку затрымлівалі, хлопчык толькі вучыўся размаўляць, а цяпер ужо прамаўляе сказамі, і нават вучыцца жартаваць. Дзякуючы лістам Паўлу ўдаецца не губляць сувязь з дзіцем: ён у падрабязнасцях распытвае Вольгу пра тое, чаму новаму навучыўся Францішак, і часта звяртаецца да сына наўпрост, напрыклад, хваліць яго за дасягненні.

— Паралельна ў кожным лісце (лістоў шэсць апошніх) ён піша Францішку казку пра двух анёлаў, каторыя аберагаюць хлопчыка Франка. Там толькі завязка яшчэ, але казка вельмі прыгожая і глыбокая атрымоўваецца. І мы цяпер яшчэ больш чакаем наступных лістоў.

Вольга распавядае Францішку ўсю праўду пра тое, дзе цяпер знаходзіцца яго бацька, толькі злёгку змякчаючы фармулёўкі.

— Францішак ведае, што для таты трэба збіраць перадачы, дапамагае мне набываць розныя рэчы, ён актыўны ўдзельнік гэтага працэсу. Вельмі любі-



Вольга і Францішак Севярынцы

ць атрымліваць лісты. Паша яму малюе нейкія размалёўкі, машыны (у мужа мастацкая адукацыя і малюе ён вельмі добра).

Разам з сынам Вольга ўпрыгожыла дом да Каляды, павесіла гірлянды — у любы момант сям'я гатовая ва ўтульнай абстаноўцы сустрэць Паўла дома.

— Што да Паўла, то ў лістах ён ніколі не скардзіцца на ўмовы свайго ўтрымання. І нават калі захворвае, сям'я дазнаецца пра гэта постфактум.

# Свята ўзмоцненага рэжыму

Мікалай ДЗЯДОК

**Сярод тых, хто сустрэў Новы год за кратамі — наш калега, анархіст і блогер Мікалай Дзядок. Гэты артыкул Мікола напісаў у 2016 паводле свайго досведу амаль пяцігадовага зняволення па «справе анархістаў».**

Новы год — надзвычай важнае свята для вязняў не толькі таму, што дазваляе наесціся прысмакаў і выйсці за межы штодзённага рэжыму. Навагодняя ноч — гэта тая прынцыповая і лёсавызначальная рыска, якая адмярае час, што застаўся да заканчэння тэрміну.

Арыштанты — народ забабонны. У іх нават не прынята віншаваць «з Новым годам» — бо гэта можна расцаніць як пажаданне таго, каб табе далі яшчэ год (сумная рэчаіснасць для асуджаных паводле артыкула 411 КК РБ).

У вязняў прынятыя іншыя формы віншавання: «З надыходзячым!» ці «З Новым дзве тысячы такім-та годам». Але падрыхтоўку да свята забабоны ніяк не абмяжоўваюць — наадварот, рыхтавацца да яго большасць зэкаў пачынае загадзя, бо гэта, бадай, адзінае свята ў годзе, на якое адміністрацыя дазваляе адступленні ад штодзённага рэжыму.

Якія радасці даступныя зэку ў няволі? Там няма шампанскага, не дазволена запускаць салюты, нельга хадзіць у госці — у пераважнай большасці калоній забаронена нават сходзіць да прыяцеля ў іншы атрад. Застаюцца толькі дзве традыцыйныя навагоднія забавы: аб'есціся і паглядзець тэлевізар.

За некалькі тыдняў вязні купляюць у атаварцы каржы для тартоў, згушчонку і сметанковае масла — калі, вядома, гэтыя прысмакі маюцца ў продажы. Чые родныя могуць сабе дазволіць — дасылаюць з дому разынкі, арэхі, шакалад. З усяго гэтага вязні робяць тарты, што ўяўляюць сапраўдныя творы мастацтва. Бо калі патрэбных інгрэдыентаў няма, у ход ідзе літаральна ўсё. Замест згушчонкі — мёд, замест арэхаў — мармелад ці паламаныя цукеркі, замест шакаладу — халва. Так і вырастаюць на сталах арыштантаў да 31 снежня самаробныя «монстры», зробленыя без усялякіх рэцэптаў, затое з душой.

Сам не бачыў, але чуў, што ў асабліва бедных месцах, дзе рэжымам не дазволена нічога (звычайна гэта крытая турма) вязні ў якасці каржоў выкарыстоўваюць белы хлеб, а ў якасці крэму — кісель і салодкую ваду. А паколькі турма — мадэль грамадства ў мініяцюры, то ёй уласцівыя і ўсе несправядлівасці вольнага жыцця: і пакуль нехта лепіць «торт» з белага хлебу і кісялю, на сталах асобных вязняў у навагоднюю ноч можна сустрэць прысмакі, якія далёка не ўсе беларусы на волі могуць сабе дазволіць: ікру, сёмгу, свежыя ягады, дарагія кілбасы. Але пры сённяшніх маштабах пасадак чыноўнікаў і бізнесоўцаў гэта не выглядае дзіўным.

Тыя зэкі, якім у жыцці не хапае рызыкі, за пару тыдняў да Новага году ставяць брагу — і ў навагоднюю ноч разліваюць па кубках падабенства хлебнага віна. Але паколькі рэжым у турмах з кожным годам узмацняецца, і забава гэта робіцца ўсе больш небяспечнай, то ўсё менш вязняў гатовыя атрымаць 10 сутак ШІЗА за магчымасць адчуць забыты ўжо смак алкаголю.

Апошняя з магчымых радасцяў, якую арыштанты могуць раздзяляць з вольным (так і хочацца паставіць двукоссі) насельніцтвам Беларусі — начны прагляд тэлевізару. Навагодняя ноч — адзіны выпадак у годзе, калі адміністрацыя калоніі афіцыйна дазваляе адбой пасля поўначы: а 1.00 ці а 2.00, у залежнасці ад строгасці мясцовых начальнікаў. А да гэтага часу вязні паглынаюць нарыхтаваныя салаты, тарты і, вядома, чыфір у неймавернай колькасці (калі, вядома, дазваляе ўзровень дастатку).

У камернай сістэме — свае традыцыі. Вязні СІЗА і крытых турмаў, як толькі гадзіннік адбівае 00.00, пачынаюць што ёсць моцы барабаніць у сцены, падлогу, дзверы і нават столь — віншуюць такім чынам суседніх камеры. У большасці турмаў адміністрацыя заплюшчвае вочы на такую бяскрыўдную традыцыю, але толькі не ў Жодзіна — ахоўнік, як звар'яцелы, абавязкова падбяжыць да вочка і пачне лаяцца на зэкаў, пагражаючы ўсімі смяротнымі карамі.

Але Новы год — надзвычай важнае свята для вязняў не толькі і не столькі таму, што ён дазваляе наесціся прысмакаў, падурэць і выйсці за межы штодзённага рэжыму. Навагодняя ноч — гэта тая прынцыповая і лёсавызначальная рыска, якая адмярае час да заканчэння тэрміну. Нават кожны дзень і кожны тыдзень, што засталіся за плячыма, робяць свабоду бліжэйшай, але год — гэта ўжо сур'ёзная, грунтоўная рыса на ўяўнай лінейцы, у канцы якой — запаветны дзень вызвалення.

І пасярод навагодняга шуму ў цесным бараку, кпінаў і жартаў ад татуяваных «пасажыраў», з якімі звёў лёс, кожны арыштант, будзь у яго тры ці пятнаццаць гадоў тэрміну, у думках усміхнецца сам сабе, уздыхне, і ў тысячны раз падлічыць, колькі цяпер засталося «да званка». А зранку 1 студзеня працягне свой пануры, але непазбежны шлях наперад — туды, дзе маячыць прывід свабоды.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Дзед Мароз — крывавы маньяк?

Ва Украіне, якая намагаецца канчаткова парваць з камуністычным мінулым, Новы год не абышоўся без атак на Дзеда Мароза — савецкага эрзацу Святога Мікалая.

Гэтым разам Дзеда Мароза пачалі параўноўваць з крывážэрным маньякам. Допіс пра гэта апублікавала супольнасць «Український інформаційний простір». На думку аўтара публікацыі, Дзед Мароз паўстаў на базе крываважэрных паганскіх ідалаў старажытных часоў, якім прыносілі чалавечыя ахвяры. Па каментарах бачна, што нават украінскамоўныя карыстальнікі аказаліся агаломшаныя такой трактоўкай. На думку многіх, новая версія казачнага героя хутчэй нагадвае начныя страшылкі з піянерскага лагера.

У пошуках ісціны давялося звярнуцца да культуролагаў. Тыя сцвярджаюць, што ў народным фальклоры Дзед Мароз і Снягурка не былі падобныя на людажэраў. Літаратары, якія ў сярэдзіне XIX стагоддзя збіралі і апрацоўвалі народны фальклор, выяўлялі Дзеда Мароза як добрага сівога дзядулю, які дорыць падарункі дзецям. Што да Снягуркі, то яе ўпершыню згадаў у 1860-м Рыгор Данілеўскі, ураджэнец Харкаўскай губерні ў паэтычным варыянце ўкраінскай народнай казкі пра снежную дзяўчынку. Дапамаглі людзям уявіць, як выглядае Снягурка, два мастакі — Васняцоў і Врубель. Гэты вобраз Дзеда Мароза і «прыватызавалі» бальшавікі ў 1930-я.

Цікава, што не толькі ва ўкраінцаў Святы Мікалай мае двайніка — Дзеда Мароза. У фінаў гэта Ёлупукі, у літоўцаў — Каледа Сяняліс (Калядны Дзед), у балгар — Дзядо Каляда і гэтак далей. Адсюль выснова: калі ўкраінцы хочуць лічыць сябе еўрапейцамі, не трэба спяшацца выганяць Дзеда Мароза — нават калі ўжо ёсць Святы Мікалай.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. «Вячэра» замест «Іроніі»



Нямецкае выданне Deutsche Welle раптам выявіла нямецкі аналаг культавага фільма «Іронія лёсу, або З лёгкай парай!», які ў нас абавязкова круцяць на навагоднія святы. Называецца ён «Вячэра на аднаго» — і абавязковы да прагляду на Новы год у Германіі.

Праўда, гэта не фільм, а стары запіс кароценькага гумарыстычнага скетча з двума акцёрамі. Адзін выконвае ролю старой гаспадыні, а другі — яе прыслужніка. Гаспадыня адзначае сваё 90-годдзе і запрасіла на вячэру сваіх блізкіх сяброў. Але, паколькі яны ўсе даўно памерлі, іх ролю за сталом бярэ на сябе прыслужнік. Ён па чарзе падымае тосты ў гонар гаспадыні ад імя кожнага госця, які, нібыта, сядзіць за сталом. Да фіналу скетча стары прыслужнік добра напіваецца, і з вялікай цяжкасцю перасоўваецца па пакоі — увесь час спатыкаецца, выпівае ваду з вазы для кветак і ледзь не перакульвае крэсла, на якім сядзіць з абыякавым выглядам гаспадыня.

Сам ролік доўжыцца ўсяго 10 хвілін, аднак сваю місію «Вячэра» выконвае не горш за «Іронію лёсу». На Новы год яго глядзіць кожны трэці жыхар Германіі. А гэта — практычна ўсе тыя, хто ў навагоднюю ноч уключае тэлевізар.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Самы сумны Новы год

Напэўна, самая мінорная атмасфера на планеце ў навагоднія святы пануе ў Арменіі. Аксакалы кажуць, што так сумна не было нават у цяжкія гады пачатку 1990-х, калі хлеб куплялі па картках, а электрычнасць у дамах зімой давалі на 2 гадзіны ў суткі.

Усё таму, што нацыя да гэтага часу знаходзіцца ў шокавым стане пасля паразы ў восеньскай вайне з Азербайджанам. Як вынік — у армянскай сталіцы ўпершыню за многія дзесяцігоддзі на галоўнай плошчы не была ўстаноўленая навагодняя ялінка. Абышліся армяне гэтым разам і без звыклых ілюмінацый і гарадскіх святкаванняў. На ўсё гэта ў сталіцы (у тым ліку на елку) давялося б выкласці 100 мільёнаў драмаў (прыкладна 200 тысяч еўра). Аднак гэтыя грошы вырашана накіраваць у Сцепанакерт на аднаўленне разбураных вайной дамоў.

Ёсць перамена і ў праверанымі гадамі сцэнары навагодніх застолляў. Нават калі ў сем'ях няма забітых на фронце, першы тост цяпер уздымаюць у гонар загінулых воінаў. Што да падарункаў, то апазіцыя абяцала народу навагодні падарунак у выглядзе адстаўкі прэм'ера Нікалы Пашыняна. Нягледзячы на вулічныя пратэсты, Пашынян утрымаўся. Таму яго апанентам давялося абмежавацца заклікам сабатаваць трансляцыю навагодняга віншавання Пашыняна.

Застаецца дадаць, што па заканчэнні навагодніх вакацый, як лічаць практычна ўсе эксперты, у краіне варта чакаць новага ўсплёску палітычнай эскалацыі.

**Паводле армянскай прэсы**

# Чаго свету чакаць у год Быка?

Алег НОВІКАЎ



**Відавочна, шмат каго хвалюе пытанне: што нас чакае ў новым годзе, сімвалам якога з'яўляецца Бык? Чаму б для адказу на гэтае пытанне ні падняць архівы за гады, на якія ў мінулым выпадаў гэты астралагічны знак?**

У недалёкім і адносна далёкім мінулым год Быка прыходзіўся на 1925, 1937, 1949, 1961, 1973, 1985, 1997, 2009 гады. Безумоўна, у пераліку іх цяжка абыйсці ўвагай 1937 год, калі сталінскія рэпрэсіі дасягнулі апагею. Не выпадкова ў сецiве сустракаецца сумны жарт, што ў наступным годзе можна не купляць каляндар на 2021-ы — можна выкарыстоўваць стары на 1937 год.

У гэтым жарце ёсць праўда. У год Быка фіксуецца шмат рэпрэсій і палітычных працэсаў. У 1949-м пачалася знакамітая «ленінградскае справа». А ў Венгрыі ў 1949-м атрымаў пажыццёвы тэрмін кардынал, які супраціўляўся нацыяналізацыі каталіцкіх школ. Зрэшты, у гісторыю ён увайшоў яшчэ і тым, што пасля падаўлення вугорскага паўстання ўмудрыўся 15 гадоў пражыць у пасольстве ЗША.

Напэўна, негатыўнае ўражанне наконт года Быка можа ўзмацніць і спіс рэзанансных трагедый, якія прыпадалі на згаданыя вышэй гады. У гэтым спісе, напрыклад, незвычайная Куранёўская трагедыя — прарыў у сакавіку 1961-га дамбы ў Кіеве. Тады на раён Куранёўка пайшоў вал вадкага бруду вышынёй ад чатырох да васьмі метраў. Ён рухаўся з хуткасцю 3–5 метраў за секунду — і накрыў жылыя кварталы плошчай каля 30 гектараў. Паводле афіцыйных даных, у выніку загінулі 147 чалавек, паводле неафіцыйных — каля 1500.

Аднак імідж года Быка як года суцэльнага негатыву зманлівы. Гады Быка вядомыя як гады буйных і часам паспяховых пратэстаў у абарону палітычных і сацыяльных правоў. У 1925-м брытанскія шахцёры сваімі выступамі прымусілі прадпрымальнікаў адмяніць лакаўт у вугальнай прамысловасці. 27 лютага 1973-га амерыканскія індзейцы захапілі пасёлак Вундэд-Ні ў штаце Паўднёвая Дакота, які ўтрымлівалі 71 дзень у аблозе з боку федэральных сілаў (ФБР, паліцыя і войска). Гэта самы гучны выступ сучасных індзейцаў ЗША за свае правы. Паўстанне афінскіх студэнтаў супраць дыктатуры ў лістападзе 1973-га было падаўленае, аднак стала пачаткам крызісу рэжыму і вяртання да дэмакратыі.

Год Быка ўвогуле не вельмі спрыяе аўтарытарным палітыкам. Напрыклад, 30 траўня 1961-га — па дарозе на загарадную вілу — змоўшчыкамі быў расстраляны дыктатар Дамініканскай Рэспублікі Рафаэль Трухільё, які раней абвясціў сябе прадстаўніком Бога на зямлі. Палітыкам гэтай катэгорыі даставалася ад Быка нават пасля смерці. Менавіта на 1961 год прыпала кульмінацыя кампаніі дэсталінізацыі ў СССР, калі Сталінград быў перайменаваны ў Валгаград.

Акрамя таго, год Быка прыносіў шмат новага ў сусветны палітычны расклад. У 1949-м была абвешчаная Кітайская Народная Рэспубліка, што цалкам перавярнула глабальную палітычную карту. У красавіку таго ж года быў падпісаны Паўночнаатлантычны дагавор паміж ЗША, Вялікабрытаніяй, Францыяй, Канадай і іншымі краінамі, які паслужыў асновай для стварэння ваенна-палітычнага саюза NATO. Ну і, натуральна, нельга не ўспомніць, што менавіта ў год Быка, 12 красавіка 1961 года, Юрый Гагарын здзейсніў першы палёт чалавека ў космас.

Нарэшце, 1985-ы прынята лічыць годам пачатку ў СССР глыбокіх эканамічных і палітычных рэформаў, якія атрымалі назву «перабудова». Менавіта па яе выніках узніклі падставы для абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

У часы незалежнасці беларусы сустракалі год Быка двойчы — у 1997-м і 2009-м. 1997-ы, напэўна, увайшоў у гісторыю дзякуючы Дамове аб Саюзе Беларусі і Расіі. Тэкст дамовы, што падпісалі 2 красавіка ў Маскве кіраўнікі Беларусі і Расіі, вымагаў ад падпісантаў стварэння канфедэрацыі з адзінай валютай, выканаўчымі органамі і гэтак далей. Як вядома, узаемны недавер Масквы і Мінска хутка пахаваў гэтыя планы.

Так ці інакш, з тых часоў 2 красавіка адзначаецца ўладамі як Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі, хаця некаторыя бачаць у ім лагічны працяг Дня Дурня. У тым жа годзе 3 ліпеня было абвешчана нацыянальным святам Рэспублікі Беларусь — Днём Незалежнасці. Да 1997 года свята адзначалася 27 ліпеня — у гадавіну прыняцця ў 1990 годзе Дэкларацыі аб незалежнасці і суверэнітэце краіны.

Чальцам апазіцыі 1997-ы дакладна запомніўся як год, калі паўстала арганізацыя «Малады фронт» (МФ). МФ гучна заявіў пра сябе за кошт кампаніі «Горад наш», у рамках якой над будынкамі розных гарадоў Беларусі было ўзнята каля 1200 бел-чырвона-белых сцягоў.

А вось 2009-ы можна ўзгадаць хіба тым, што Беларусь увосень атакаваў свіны грып. Тады ж Беларусь стала чальцом праграмы «Усходняе партнёрства», што не выклікала эйфарыі ў Крамлі. Увогуле, гэта быў год, калі свет яшчэ не адышоў ад эканамічнага крызісу папярэдняга года, і Мінску даводзілася шукаць грошы дзе толькі магчыма.

Варта таксама адзначыць, што год Быка багаты і на культурныя прарывы. Дастаткова прыгадаць толькі адно: 21 сакавіка 1961-га The Beatles пачалі выступаць у цяпер ужо легендарным клубе Cavern Club, даючы старт сваёй фантастычнай кар'еры. У гэтыя гады з'явіліся серыял «Сямнаццаць імгненняў вясны» (1973), фільмы «Вестсайдская гісторыя» (1961), «Іван Васільевіч мяняе прафесію» (1973), «Тытанік» (1997), «Аватар» (2009). Пабачылі свет такія значныя літаратурныя творы, як «Хобіт, або Вандроўка туды і назад» (1937), «1984» (1949), «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» (1961).

Велізарны масіў інфармацыі пра тое, што адбывалася ў гады Быка ў мінулым, на жаль, не дазваляе адразу выявіць нейкую адназначную формулу, паводле якой будуць развівацца падзеі ў 2021-м. Хіба што можна ўзгадаць заявы астролагаў, якія адзначаюць такія якасці быка, як любоў да працы, цярпенне і рашучасць. Гэтая акалічнасць, па іх словах, азначае, што год Быка будзе спрыяць тым, хто гатовы ўпарта працаваць для дасягнення сваёй мэты.

# Ад лятаючых машын да новага Сярэднявечча

Алег НОВІКАЎ

**Мы паступова звыкаемся з думкай, што ўжо жывём у трэцяй дэкадзе XXI стагоддзя. Гэта робіць усё больш дарэчным пытанне пра тое, што чакае чалавецтва ў фінале гэтага дзесяцігоддзя.**

Ад самага пачатку трэба адзначыць важны момант. Як паказаў мінулы год, сучасная футуралогія — вельмі ненадзейная навука. Ніхто да пачатку 2020-га не мог прадказаць з'яўленне віруса, які ўжо забіў кожнага тысячнага жыхара ЗША (вядучай у свеце краіны, дарэчы), парваў сусветную эканоміку, прымусіў самыя ліберальныя ўрады ўводзіць ледзь не надзвычайнае становішча і закрываць краіны ад суседзяў. У кантэксце жадання шмат каго ізаляваць, эксперты нават пачалі казаць пра крах ідэі глабалізацыі і пра вяртанне да мадэлі нацыянальнай дзяржавы.

Зрэшты, нягледзячы на эпідэмію, пакуль асноўны трэнд трэцяй дэкады XXI стагоддзя не аспрэчваецца. Гаворка пра глабальныя змены, якія выклікае выкарыстанне штучнага інтэлекту. Лічыцца, што найбольш прыкметна машыны пачнуць замяняць людзей на транспарце, аўтаномныя аўто могуць ужо ў бліжэйшыя дзесяць гадоў запоўніць дарогі. А да 2030 года можа нават ажыццявіцца мара фантастаў пра лятаючыя аўтамабілі, якія, вядома ж, будуць беспілотнымі.

Даследчыкі мяркуюць, што штучны інтэлект зможа дапамагчы нават следчым і суддзям — выяўляць хлусню падчас допыту. Паспяховыя распрацоўкі ў галіне пратэзавання, магчыма, будуць наўпрост інтэграваныя ў чалавечае цела. Мазгавыя кампутарныя інтэрфейсы могуць даць чалавеку фантастычныя здольнасці. Напрыклад, выконваць функцыі, што раней чалавеку былі недаступныя. Так, будучыя імпланты ў сятчатку вока дадуць нам магчымасць бачыць уначы.

Відавочна, што працэс рабатызацыі практычна знішчыць цэлыя катэгорыі прафесій: ад кіроўцаў грузавікоў і таксі да некаторых высокакваліфікаваных супрацоўнікаў, напрыклад, памочнікаў юрыстаў і інжынераў. Спробы нейкім чынам захаваць працоўныя месцы могуць прывесці да таго, што ў 2020-я працоўны дзень стане 4-х або 6-гадзінным. Парадаксальна, але эксперты лічаць, што нават пры павальнай рабатызацыі не знікнуць настаўнікі, паколькі педагог — гэта яшчэ і выхавальнік.

З іншага боку, атрымліваць задавальненне ад поспехаў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі стане няпроста. Гэтаму можа замінаць глабальнае пацяпленне. Клімат, верагодна, працягне хутка змяняцца, і шмат дзе будзе назірацца экстрэмальнае надвор'е. З-за росту тэмпературы і недахопу пітной вады могуць пачацца масавыя міграцыі насельніцтва. Шматлікім прыморскім гарадам пагражаюць катастрофы.

Рост насельніцтва планеты і наступствы глабальнага пацяплення, як мяркуюць, выклічуць праблемы з харчаваннем. Попыт на прадукты вырасце да 2030 года як мінімум на 35 працэнтаў, а попыт на пітную ваду, як чакаецца, — на 40 працэнтаў. Амаль палова насельніцтва свету будзе жыць у раёнах, што пакутуюць ад вострай нястачы прэснай вады.

Аднак пагроза глабальнага кліматычнага апакаліпсісу стане імпульсам для касмічных даследаванняў. Ужо ў 2024 годзе плануецца запусціць праграму па каланізацыі Месяца. Стварэнне сталай жылой станцыі на арбіце Месяца будзе адпраўной кропкай для хуткай экспедыцыі на Марс.

Што да глабальнай палітыкі, то яе контуры пачнуць вырыя метафарычна дапускаюць, што праз дзесяць гадоў сусветны парадак будзе настолькі расхістаны, што стане нагадваць Сярэднявечча або серыял «Гульня тронаў» са шматлікімі і больш-менш роўнымі па сіле каралеўствамі.

Гэтыя рэжымы пачнуць выбудоўваць камбінацыі, абапіраючыся на больш слабых, але аўтаномных рэгіянальных суб'ектаў накшталт Бразіліі, Расіі, Турцыі, Ірана і гэтак далей. Зрэшты, ці будуць выглядаць згаданыя дзяржавы так, як цяпер, таксама вялікае пытанне. Напрыклад, рост колькасці мусульманскага насельніцтва ў Расіі можа ўзмацніць запыт аўтаномій на самастойнасць, і, як вынік, перагляд імперскай матрыцы ідэі расійскай дзяржаўнасці. Дапускаюць, што Іран пасля калапсу тэакратыі стане ліберальным маяком для рэгіёну.

Уявіць сабе геапалітычны трыпціх 2030 года комплексна вельмі складана з-за выкарыстання новых камунікацыйных тэхналогій. Яны ў тым ліку зменяць механізмы ўлады. З аднаго боку, сацыяльныя сеткі дазволяць грамадзянам аб'ядноўвацца і фарміраваць свае выклікі на адрас улады. Гэта ставіць крыж на намерах аўтарытарных рэжымаў дамагчыся кансалідацыі і лаяльнасці. З іншага боку, такія тэхналогіі дадуць урадам або IT-кампаніям беспрэцэдэнтную магчымасць сачыць за грамадзянамі, фільтраваць інфармацыйную плынь і навязваць сваю думку.

**Працэс рабатызацыі практычна знішчыць цэлыя катэгорыі прафесій: ад кіроўцаў таксі да некаторых высокакваліфікаваных супрацоўнікаў. Спробы захаваць працоўныя месцы могуць прывесці да таго, што ў 2020-я працоўны дзень стане 4-х або 6-гадзінным**

будоўвацца ў кантэксце змены эканамічнага патэнцыялу краінаў. Да 2030 года Азія, як чакаецца, перасягне па памерах вытворчасці Паўночную Амерыку і Еўропу разам узятыя — па росце ВУП, колькасці насельніцтва, расходах на абарону і па тэхналагічных інвестыцыях. Несупадаючыя хуткасці розных рэгіянальных эканомік могуць выліцца ў канфлікты, тым больш, што Злучаныя Штаты, верагодна, будуць спрабаваць не дапусціць хуткага заканчэння «Pax Americana».

Паколькі ў спіну Кітаю дыхае Індыя і, патэнцыйна, Японія, да 2030-га магчыма ўзнікненне нават шэрагу полюсаў з глабальнымі амбіцыямі. Некаторыя

Такая тэндэнцыя, у сваю чаргу, выклікае дэбаты наконт лёсу Еўрапейскага саюза — цытадэлі сусветнай дэмакратыі. Тым больш, што да 2030 года сярод пяці краін з найбольшым аб'ёмам эканомікі не будзе ніводнай еўрапейскай. Не кажучы пра тое, што цяпер назіраецца падзел аб'яднання па больш ліберальны і кансерватыўны лагеры.

Зрэшты, складаць некралог ЕС рана. У тым ліку таму, што ў нашым стагоддзі свет відавочна страціў прадказальнасць. Агульназразумелых арыенціраў больш няма. Застаецца карыстацца старым правілам: пажывем — пабачым.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЛАТВІЯ. Дэфіцытам па вірусу



Незвычайны метад прыдумалі для барацьбы з каронавірусам улады Латвіі. Яны значна скарацілі асартымент даступных тавараў у крамах, каб жыхары менш часу прысвячалі шопінгу. Хаця абмежаванні закранулі толькі пэўныя катэгорыі тавараў, насельніцтва краіны вельмі нервова адрэагавала на рашэнне ўрада.

Пасля абвяшчэння спісу «забароненых» тавараў людзі кінуліся штурмаваць гандлёвыя цэнтры. Такіх натоўпаў, чэргаў, цісканіны і штурханіны, калі верыць мясцовым СМІ, Рыга не бачыла дзесяцігоддзямі.

Між тым, сэнс абмежавальных мераў быў якраз скіраваны на стварэнне сацыяльнай дыстанцыі. Ад усведамлення памылковасці сваіх паводзін латвійскія ўлады прыняліся спешна пашыраць спіс тавараў першай неабходнасці.

У выніку градус абсурду пайшоў уверх па экспаненце. Аказалася, напрыклад, што ў крамах нельга прадаваць навагоднія свечкі, затое можна — лампадкі на магілкі.

Рашэнні ўрада сталі невычэрпнай крыніцай жартаў у латвійскіх сацыяльных сетках. Пры гэтым многія адзначаюць: чыноўнікі чамусьці не разумеюць, што іх паводзіны з'яўляюцца наскрозь «саўковымі» і нагадваюць стары анекдот пра старшыню «забітага» калгасу, які рэагуе на крытыку журналістаў фразай «хай клевещут».

**Паводле латышскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. У 2021-м усе стануць зомбі?

У час навагодніх святаў стала папулярна глядзець, што прагназуюць на будучы год рознага кшталту прадказальнікі і варажбіты. Натуральна, пры гэтым цяжка прайсці міма Мішэля Настрадамуса, які ў XVI стагоддзі прадказаў будучыя падзеі аж на пяць тысяч гадоў наперад.

Пісаў ён, як вядома, вельмі цьмяна, што дазваляе рабіць самыя смелыя інтэрпрэтацыі напісанага. Сваю версію прагнозаў Настрадамуса на гэты год выдаў брытанскі таблоід Daily Mirror. Версія, шчыра кажучы, невясёлая. Пачнём з таго, што нейкі навуковец з Расіі ў 2021-м створыць біялагічную зброю — вірус, які ператворыць людзей у зомбі. Таксама Настрадамус быццам прагназуе, што ў гэтым годзе на зямлю прыйдзе голад біблейных маштабаў. Але і гэта яшчэ не фінал. Аграмадную шкоду нашай планеце ў 2021 годзе, сцвярджае выданне, зробяць велізарныя сонечныя буры. У набор таго, што нам нясе новы год, прапануецца дадаць маштабны землятрус і нават сутыкненне планеты з астэроідам.

Тым больш цікава, як чытачы Daily Mirror каментуюць такі прагноз. На іх думку, ад жоўтага выдання наўрад ці можна было чакаць нечага іншага. А некаторыя нават высмеялі логіку трактовак запісаў Настрадамуса журналістамі. «"Схіл парку, вялікае бедства. Праз землі Захаду і Ламбардыю. Агонь на караблі, чума і палон; Меркурый у Стральцы, згасанне Сатурна", — аказваецца для Daily Mirror гэты запіс Настрадамуса трэба перакладаць як "разбуральны землятрус"», — іранізуе ў каментарах адзін з чытачоў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Каранцін як прычына канфузаў палітыкаў

2020-ы год стаў сапраўдным выпрабаваннем для рэпутацыі многіх палітыкаў. Галоўныя прычыны — пандэмія і каранцін, які яе суправаджаў. Яны ўнеслі сур'ёзныя карэкціроўкі ў працу людзей па ўсім свеце. Палітыкі таксама былі вымушаныя перайсці на дыстанцыйную форму працы, што стала пляцоўкай для кур'ёзных сітуацый і скандалаў.

Першае месца ў спісе амерыканскага выдання New York Post атрымала мексіканская сенатарка Марта Люсія Мічэр Камарэна. У чэрвені 66-гадовы палітык выпадкова агаліліся падчас дзяржаўнай анлайн-сустрэчы. Сітуацыю абвастрыў удзел у канферэнцыі прадстаўнікоў СМІ. Трэба аддаць належнае кабеце, яна прыняла выклік. «Я — жанчына 66 гадоў, якая выкарміла грудзямі чатырох дзяцей, трое з якіх выраслі адказнымі мужчынамі», — заявіла сенатарка інтэрнэт-тролям, якія смяяліся з яе формаў. У выніку для Марты Люсіі ўсё вырашылася без значнай рэпутацыйнай шкоды і без страты пасады.

Не так пашанцавала з пазапланавым агаленнем генсеку Сацыялістычнай партыі працоўных Іспаніі. Той вырашыў прыняць душ падчас анлайн-нарады, і ў працэсе прайшоўся аголеным перад камерай. З-за скандалу іспанскаму палітыку давялося адмовіцца ад пасады, каб не псаваць рэпутацыю партыі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# «Я веру, што беларусы хутка выберуцца

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Узбекскі паэт і дысідэнт Ёдгар Абід у свой час прыдумаў слова «башызм», якое апісвае сярэднеазіяцкую дыктатуру. На жаль, у Беларусі імя Ёдгара Абіда малавядомае. Мы вырашылі выправіць гэтую недарэчнасць.**



**Даведка:**

Ёдгар Абід нарадзіўся 15 снежня 1940 года. З 1975-га па 1981 год навучаўся ў Маскве ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. За свае вершы ў 1981–1985 быў сасланы ў Сібір у лагер прымусовых працаў. У 1989 годзе далучыўся да дэмакратычнага ўзбекскага руху BIRLIK (Адзінства), з якога хутка выйшаў па прычыне зліцця-калабарацыі дэмакратаў з наменклатурнікамі, у прыватнасці з І. Карымавым. Пад пагрозай арышту і смерці ў 1992 годзе быў вымушаны з'ехаць з Узбекістану. З 1992 па 1997 жыў у Азербайджане, Грузіі, Турэччыне і Расіі. У Маскве жыў тры гады і працаваў на Радыё Свабода, ва ўзбекскай секцыі. У Маскве тройчы невядомыя карымаўцы збівалі і пагражалі яму. З 1997 года жыве ў Аўстрыі. З'яўляецца найстарэйшым узбекскім палітычным дысідэнтам і ўцекачом, вядомым паэтам, з 2007 года — сябра Міжнароднага ПЭН-клуба ў выгнанні. Стваральнік слова «башызм», якое апісвае сярэднеазіяцкую, узбекскую дыктатуру. Сябра дэмакратычнай Беларусі. Любіць паэзію Янкі Купалы. Знаёмы з пісьменніцай Вольгай Іпатавай. Зычыць беларусам перамогі і найхутчэй выбрацца з пасткі, пастаўленай дыктатарам.

***— Цешуся, што цяпер і беларусы змогуць пазнаёміцца з вамі бліжэй.***

— Я, дарэчы, раней ня дрэнна ведаў беларускую літаратуру і быў знаёмы з некаторымі беларускімі пісьменнікамі, напрыклад, з Вольгай Іпатавай. Імёны многіх іншых я проста забыў, бо з таго часу адбылося столькі ўзрушэнняў у маім жыцці і жыцці нашых краінаў. Але я ўзгадаю: мая памяць абуджаецца, калі важна нешта ўспомніць або трэба штосьці вельмі тэрмінова. Акрамя беларускай літаратуры я вельмі любіў украінскую.

У беларускай літаратуры я асабліва люблю Янку Купалу. Гэта народны паэт, яго я чытаў яшчэ ва Узбекістане. Мяне цікавіць народная паэзія і тое, як паэты бяруць сілы ў народнай творчасці. Мяне зацікавілі беларускія народныя традыцыі, святы з вогнішчамі, танцамі і скаканнем праз вогнішча. У нас таксама ёсць такая традыцыя — скакаць праз агонь на святы, вяселлі і спяваць песні вакол вогнішча. Гэта таксама старажытны ўзбекскі звычай. Я хацеў пісаць пра гэтае агульнае для многіх народаў у Сярэдняй Азіі і ў вас у Беларусі, але мяне зацягнула іншая плынь, і я нічога не паспеў напісаць. Акрамя Янкі Купалы, многіх іншых вашых аўтараў я шукаў і чытаў, калі вучыўся ў Маскве і ў мяне былі знаёмыя па вучобе з Беларусі. Я ўжо ўзгадваў Вольгу Іпатаву, гэта была вельмі энергічная літаратарка, яна, дарэчы, пераклала некалькі і маіх вершаў на беларускую мову. Пісала вершы і прозу. Працавала журналісткай і, дарэчы, была звязаная з Узбекістанам: (першы) муж Вольгі Іпатавай быў маім сябрам — Ісфандыяр (Іспанд'ёр) Маткарымаў, узбекскі пісьменнік.

***— Вы сказалі неяк, што хоць і пішаце вершы, але паэтам сябе не лічыце? Чаму?***

—Таму што паэт — для мяне гэта занадта высокае званне. Я саромеюся называць сябе паэтам. І хоць я вучыўся ў Літаратурным інстытуце ў Маскве (Інстытут М. Горкага), але вучыўся на літаратара, не паэта. Але, здаецца, і як літаратар я не зусім рэалізаваў сябе. Калі шчыра, я проста пісаў, калі станавілася немагчыма на душы. То-бок, выліваў усё з душы ў тэкст. А так сядзець і пісаць, падбіраць словы, прыдумляць — я не ўмеў і не ўмею. І нават правілаў вершаскладання я не ведаю дакладна. Я люблю народную паэзію. Калі пачынаю вывучаць якую-небудзь паэзію, народ, усё адно — грэчаскую, рымскую, англійскую ці расійскую, перш за ўсё я шукаю народную паэзію. Гэта пачатак любой культуры.

***— Вы казалі, што ваша мама пісала вершы. Ці захаваліся яны?***

— Толькі некалькі радкоў. Я ведаю гэтыя радкі ад адной старой жанчыны з места Маргілан (мая маці там нарадзілася). І я таксама там нарадзіўся. Бацька з Ошу. Ош вядомы басмацкім рухам. — ошскі басмацкі рух. Мой бацька таксама ўдзельнічаў у ім — быў басмачом, юзбашы (тобок, сотнік) пад кіраўніцтвам вядомага курбашы (палявы камандзір) Мадамін-бека. Калі Мадамін-бек вырашыў здацца ўладам, мой бацька адмовіўся здацца і са сваімі людзьмі праз горы ўцёк. Мадамін-беку і ўсім, хто здаўся, паабяцалі амністыю, але ўсіх арыштавалі і кінулі ў турму. А мой бацька ўцёк, але пазней, калі сталі арганізоўваць калгасы, ён прыкінуўся бедняком і ўступіў у калгас паблізу Ташкента. Гэта быў калгас, дзе вырошчвалі бавоўну. Бавоўна — гэта вялікае няшчасце Узбекістану.

***— Чаму гэта вялікае няшчасце? Бавоўна яшчэ з савецкіх часоў — гэта першая асацыяцыя з вашай краінай.***

— Я бавоўну памятаю з дзяцінства. Зусім нядаўна памёр мой добры сябра, яму было сто гадоў. Яго калісьці даўно пасадзілі за тое, што ён сказаў: «Нашы землі сталі алкаголікамі: калі не даць ім салетры і іншых хімікатаў, яны не будуць ўрадлівымі». Уся зямля і паветра, і вада цяпер атручаныя гэтымі хімікатамі. Раней, калі працавалі ў полі, аралі, угнойвалі зямлю, зверху з самалёта распырсквалі хімію — гэта было проста атручэнне насельніцтва. Многія паміралі ад гэтага, нават я памятаю. Да ўсяго хімікаты траплялі ў ваду. Шмат салетры выкарыстоўвалі на бавоўняных палях. Чыстыя паветра і зямля былі толькі высока ў гарах. Гэта першае тлумачэнне няшчасця. Па-другое, памятаю, як ноччу камсамольцы выстаўлялі сачыць і ахоўваць бавоўняныя палі не ад саранчы, а ад таго, каб калгаснікі не паўцякалі з уборкі. Камсамольцаў таксама выстаўлялі на мяжы калгасаў. Людзей трымалі ў няволі. Пра гэта ўсе забыліся, а трэба нагадваць усім.

Калгас быў чыстай турмой, канцлагерам. Камсамольцы самі жылі ў турме і іншых ахоўвалі, каб не ўцяклі з турмы. Ведаю асабіста, што многія хацелі ўцячы з калгасу, і многія сядзелі нават за тое, што не ўцяклі, а проста хацелі ўцячы. Калгаснікам да Хрушчова не давалі дакументаў — і яны не маглі нікуды з'ехаць. Мала хто меў метрыкі. А ў царскі час было лепш: мая цёшча жыла 98 гадоў, і ў яе былі метрыкі, з якіх яна ведала, што нарадзілася ў 1898 годзе. А ў маладых у калгасе не было ніякіх дакументаў. Значыць, у царскі час і бедныя мелі метрыкі, а ў савецкі час ніхто не меў дакументаў у вёсцы ва Узбекістане. Я б назваў гэта звычайным савецкім нявольніцтвам. І камсамольцы-нагляднікі таксама былі нявольнікамі.

***— У вас ёсць добры верш з гэтай нагоды — «Маленькія нявольнікі». Вы пісалі яго пра калгасы?***

**Я здзіўляюся, як цяпер быццам разумныя, адукаваныя людзі кажуць, што ў савецкі час мы жылі ў раі. Гэта так недарэчна — яны ж не бачылі, як мы жылі, а выказваюцца па прапагандысцкіх малюнках**

— Так, гэта верш пра дзяцей на ўборцы бавоўны. Я сам быў у калгасе. І быў маленькім нявольнікам. У фізічным плане нявольнікам. Але я вызваліўся з няволі. Ведаеце, з дзяцінства ў мяне быў унутраны супраціў. У душы я не быў нявольнікам, заўсёды здзіўляўся, чаму я павінен так жыць? Чаму не магу стаць чалавекам? Маё дзяцінства было вельмі небяспечным і цяжкім: сто разоў мог памерці. Нарадзіўся хворым, потым голад. Я бачыў, як людзі ішлі па дарозе, падалі і паміралі ад голаду — ніхто не звяртаў увагі на гэта. Да 1955 года мы жылі ў голадзе. Адзін франтавік неяк прызнаўся, што ў 1955 годзе ўпершыню пасля вайны наеўся ўволю.

Я часта здзіўляюся, як цяпер быццам разумныя, адукаваныя людзі кажуць, што ў савецкі час мы жылі ў раі. Гэта так недарэчна — яны ж не бачылі самі, як мы жылі за СССР, яны не адчулі на сваёй шкуры СССР, а выказваюцца па прыгожых і недарэчных прапагандысцкіх малюнках. А я ўсё бачыў сам на свае вочы! Але і цяпер ва Узбекістане «бавоўнянае нявольніцтва» існуе: усе абавязаныя працаваць на палях, па-прапагандысцку дэманстраваць так сваю любоў да радзімы. Усе студэнты абавязаныя пэўны час адпрацоўваць на бавоўнянай працы. І, ведаеце, часта багацейшыя сем'і наймаюць бяднейшых маладых людзей і такім чынам вызваляюць сваіх дзяцей ад працы. Хіба гэта не схаванае нявольніцтва?

***— А калі вы сталі вызваляцца ад нявольніцтва, памятаеце?***

— Наогул, я прызнаваў сваё нявольніцтва і імкнуўся пазбавіцца ад яго, таму, магчыма, я не быў нявольнікам у шырокім сэнсе слова — савецкая ўлада фізічна рабіла нас усіх нявольнікамі. Мы жылі ў атмасферы нявольніцтва, нас трымалі ў цісках, але я сышоў ад гэтага. Мы жылі і не ведалі гісторыі супраціву, сваёй гісторыі, якую, напрыклад, рабіў мой бацька-басмач. Нам давалі чытаць толькі такія тэксты, у якіх басмачы былі дрэнныя. Але басмацкі рух быў за вызваленне краіны. Калі я навучыўся рана чытаць і стаў у школе чытаць пра дрэнных басмачоў, я чамусьці заўсёды хацеў даведацца, адкрыць другі бок гэта руху. Я доўга шукаў адказы на шматлікія пытанні. На многія з іх я атрымаў адказ досыць позна, калі пачаў арганізоўвацца дэмакратычны рух у нас. Шмат пра што я даведаўся ў ссылцы ў Сібіры.

***— Чаму вас саслалі ў Сібір?***

— З-за майго языка. Я чытаў свае вершы. Мяне часта прасілі чытаць вершы, калі я трапляў у госці ці на сустрэчы з сябрамі. Я на памяць не мог чытаць вершаў, таму заўсёды насіў з сабою нататнік са старымі і новымі вершамі. І вось некаторыя вершы раптам аказаліся антысавецкімі — і я апынуўся ў Сібіры. Цяпер дакладна не скажу, калі гэта было, падаецца, на пачатку 80-х.

У Сібіры я жыў сярод хантаў і мансі і пазнаёміўся з хантыйскім паэтам і пісьменнікам Айпіным. Мы сталі сябрамі. У старых савецкіх даведніках пра пісьменнікаў СССР ёсць інфармацыя і пра яго, і пра мяне. І там маё імя напісана не зусім дакладна: па-руску Абид Йодгор (замест Ёдгор Обид). Ёдгар — з узбекскай мовы азначае памяць. Вельмі рэдка даюць дзецям імя Ёдгар. Звычайна сіротам даюць такое імя. А Абід — гэта ўжо арабскае слова, азначае «чалавек, які моліцца, чытае малітву». Многія ўзбекскія імёны забытыя, цяпер прынята даваць сваім дзецям

# з пасткі, пастаўленай дыктатарам»

арабскія імёны. Так лічыцца прыгажэй і лепей. Гэта таксама няправільна.

***— Вы пішаце толькі на ўзбекскай мове?***

— Пішу толькі па-ўзбекску. Мова для мяне — не проста інструмент, гэта нешта значна большае, я нават не магу растлумачыць. Таму працую толькі на адной — роднай мове.

Пішу і прозу, я шмат выкладваю сваёй прозы ў фэйсбуку. Сёе-тое з маёй прозы даступна на нямецкай мове. Маю паэзію чамусьці ніколі не перакладалі ў савецкі час на рускую мову. Адна крытыкеса і паэтка патлумачыла гэта тым, што я не быў савецкім паэтам, таму і не было маіх перакладаў. І яна мае рацыю. Я часта думаю пра тое, як людзям удавалася ў СССР у такім нездаровым клімаце захоўваць здаровы розум ды яшчэ пісаць? Калі шчыра, я ў Еўропе, у Аўстрыі ўжо больш за 20 гадоў — і толькі цяпер пачынаю ачуньваць псіхічна, псіхалагічна. Магу сказаць смела, што, жывучы тут, параўноўваючы, як я жыў у СССР або ва Узбекістане, я ведаю сапраўдныя кошт і смак свабоды. Гэта вялікая справа.

***— Давайце пагаворым пра Узбекістан. Для апісання ўзбекскай дыктатуры Карымава вы прыдумалі адмысловае слова — башызм. Растлумачце яго, калі ласка.***

— З'яўленне слова «башызм» я звязваю перш за ўсё з узбекскай і сярэднеазіяцкай сітуацыяй. У аснове ляжыць слова фашызм, розніца толькі ў першай літары. Першая літара — «б» — узятая ад слова «башы», то-бок лідар нацыі (так называюць лідараў, бацькоў нацыяў Сярэдняй Азіі). У І. Карымава быў тытул юртбашы (yurtboshi) — кіраўнік краіны. Гэтыя лідары нагадваюць мне не проста айцоў нацыі, а сапраўдных фюрэраў. То-бок, гэта такая форма аўтарытарна-патэрналісцкага рэжыму альбо сярэднеазіяцкай дыктатуры. Я сказаў так пра Узбекістан, Казахстан, Туркменістан у пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя — «башызм пачынаецца». Не фашызм, не бальшавізм, а башызм. Паглядзіце, што робіцца ў вас у Беларусі — тое ж самае: бацька, як башы — не башызм, а лукашызм, бацькізм. Аднолькавая з'ява.

***— Вельмі доўгі і складаны ваш шлях з Узбекістану ў Еўропу праз Азербайджан і Расію. Пра гэта можна здымаць фільм-драму.***

— Так, шлях няпросты. І забягу наперад і скажу, што ў Расіі мне дапамог Барыс Ельцын. Я яшчэ вярнуся да гэтага. Але пачатак шляху ляжыць, вядома, ва Узбекістане. У Ташкенце я стварыў так званы карабахскі камітэт — рух у абарону бежанцаў з Карабаху. З сябрамі мы арганізавалі гуманітарную дапамогу ўцекачам: медыкаменты, адзенне. Нанялі самалёт. Як толькі мы вярнуліся з Азербайджану, не паспеў я ўвайсці ў дом, як мяне арыштавалі, мех на галаву, пасадзілі ў машыну і кудысьці павезлі. Праўда, хтосьці з суседзяў бачыў і паведаміў сябрам. І яны арганізавалі перад Палацам прэзідэнта сядзячы страйк у знак пратэсту: паэты, пісьменнікі, журналісты. І сядзелі яны дзень і ноч. Тры дні мяне трымалі ў турме — і тры дні пратэстоўцы сядзелі перад палацам Карымава. Ён вымушаны быў адпусціць мяне. Ноччу мяне даставілі дадому і загадалі раніцай прыйсці зноў у міліцыю, каб, нібыта адзначыцца. Я зразумеў, што мяне зноў арыштуюць. І я ўцёк. Сябры на машыне вывезлі мяне на мяжу з Казахстанам. З таго часу, з 1992 года, я — уцякач.

Адразу я трапіў у Азербайджан. У цягніку ў мяне скралі абутак. Нейкі азербайджанец аддаў мне свае тэпцікі, бо было холадна. На адной з вуліц Баку я ўбачыў шыльду азербайджанскай газеты Fariad і зайшоў у рэдакцыю. Мяне накармілі і перадалі ў рукі Народнага фронту. Выдзелілі кватэру, і пэўны час я жыў там. Азербайджан вельмі моцна адрозніваўся ў той час ад краінаў Сярэдняй Азіі — гэта была адкрытая і бурлівая ў плане дэмакратычных пераменаў краіна. Эльчыбей Абульфаз, лідар Народнага фронту і прэзідэнт Азербайджану з 1992 па 1993 гады, быў маім сябрам.

Але неўзабаве і Азербайджанператварыўся ў дыктатуру. Я збег і адтуль — у Грузію, Турэччыну і, нарэшце, у Расію, дзе пражыў амаль тры гады. І цэлы год, паверце, я бадзяўся па Маскве, жыў з бамжамі, начаваў у сутарэннях кінутых дамоў. Пакуль знаёмыя не параілі мне скарыстацца тым, што я з'яўляюся сябрам Саюза пісьменнікаў. Я не ведаў, як гэта мне можа дапамагчы ў Расіі. Нехта з сяброў звязаўся з дырэктарам ПЭН-клубу ў Маскве — Аляксандрам Ткачэнкам. Ткачэнка вельмі добра сустрэў мяне, знайшоў мне кватэру і працу. Для ПЭН-клуба мне патрэбны быў ахоўнік, але ён прыдумаў такую працоўную адзінку для мяне. Я атрымліваў невялікія грошы, лічыўся ахоўнікам і пісаў вершы. Пачаў супрацоўнічаць з Радыё Свабода, узбекскай секцыяй: выступаць, пісаць, зарабляць. Жыць стала лепш. Але хутка са мной здарылася новая бяда: тройчы мяне моцна збілі ўзбекскія не вядомыя мне бамбізы і папрабавалі запалохаць. Карымаўцы за мной палявалі шмат разоў у Маскве.

Пасля трох збіццяў у Маскве, асабліва пасля вельмі цяжкага апошняга, за мяне заступіўся ПЭН-клуб. Радыё Свабода паведамляла пра тое, што мяне збілі, але дапамагчы не магло. Аляксандр Ткачэнка з расійскага ПЭН-клуба арганізаваў маё выратаванне, бо ўсе разумелі, што мяне ўсё роўна заб'юць. Многія расійскія вядомыя пісьменнікі і паэты падтрымалі мяне: Бэла Ахмадуліна, Андрэй Вазнясенскі, Юна Морыц заступіліся за мяне і напісалі ліст Ельцыну. Ткачэнка больш за ўсіх зрабіў для мяне. Ён ініцыяваў ліст Ельцыну. І той, да здзіўлення, вылучыў групу кэдэбэшнікаў, якія доўга — амаль месяц — ахоўвалі мяне. Начальнік той групы часта паўтараў-смяяўся, што яны нават Ельцына так не ахоўвалі, як мяне.

Якраз у гэты ж час са мной зноў звязваліся з Узбекістану, каб зацягнуць на радзіму. Я сустракаўся з узбекскім бокам у Маскве і на мне была прылада для падслухоўвання. Я паабяцаў падумаць і, магчыма, вярнуцца ў Ташкент. А на заўтра іх усіх арыштавалі. Пазней са мной зноў звязваліся са службы Карымава і настойвалі на новай сустрэчы са мною і на маім прыездзе ў Ташкент.

Якраз у гэты час да мяне прыйшоў у госці малады прыемны чалавек з аўстрыйскага консульства, мы пагутарылі, і ён сказаў мне: «Дзень і ноч не змагу спаць, але вывезу цябе ў Аўстрыю». З дапамогай консульства і Чырвонага Крыжа ён усё арганізаваў, зрабіў мне дакументы. У аэрапорце, калі я ляцеў з ім з такімі паперкамі на руках, сабраліся ўсе супрацоўнікі, і асабліва вайскоўцы аэрапорту. Мой аўстрыйскі выратавальнік пераканаў усіх і мяне прапусцілі. З восені 1997 года я ў Аўстрыі, куды прыехаў, не ведаючы ані мовы, ані культуры.

***— Ці памятаеце вы таго чалавека, які вам дапамог?***

— Так, Роберт Сучыч, чалавек з аўстрыйскай амбасады. Я цікавіўся, дзе ён, што з ім. Я памятаю яго дапамогу.

У мяне з'явілася шмат сяброў у Аўстрыі. Я маю шмат сустрэчаў з чытачамі. І нават, ведаеце, на мае дзевяць вершаў на нямецкай мове напісалі музыку — вядомы аўстрыйскі кампазітар Томас Турнхэр (Thomas Thurnher). І 26–30 чалавек — хор — спяваюць мае вершы, гэта вельмі прыгожа. Я стаў першым узбекам на Захадзе, на вершы якога напісалі музыку. У мяне тут фантастычныя сябры!

***— Прашу прабачэння за балючае пытанне. Вы даўно тут, а як вы падтрымліваеце сувязь з блізкімі ва Узбекістане? Яны могуць прыехаць да вас?***

— Не, яны прыехаць не могуць — для іх гэта небяспечна. Вы ведаеце, узбекскі рэжым адрозніваецца нават ад беларускага — строгасцю і злосцю. Калі прыедуць, вярнуцца не змогуць — іх проста арыштуюць. Я сачу за падзеямі на радзіме — такое было ўжо неадноёчы. Мой сябра, былы дэпутат, двойчы вяртаўся з Канады ва Узбекістан — і двойчы яго арыштоўвалі, дапытвалі і дэпартавалі з краіны. Мая сям'я першыя тры гады, калі я збег з краіны, — у мяне кватэра ў Ташкенце і ў калгасе ўласны дом каля Ташкенту, — жыла пад наглядам: за кватэрай і домам з двух бакоў сачылі. Гэта пачалося, яшчэ калі я быў там.

***— Ці змянілася сітуацыя ва Узбекістане пасля смерці Карымава?***

— Сітуацыя як быццам пачала мяняцца, але гэта павярхоўна. І, паводле маіх назіранняў здалёку, цяпер становіцца нават горш, чым было за Карымавым. Карымаў, напрыклад, спачатку не ведаў узбекскай мовы. Калі стаў прэзідэнтам, то стаў вучыць яе. У асноўным ён размаўляў па-руску. Новы ж кіраўнік — Шаўкат Мірзіяеў — быў раней прэм'ер-міністрам Карымава. І ён ведае ўзбекскую. Размаўляе добра на дзвюх мовах, а значыць, і хлусіць умее лепш — адразу на дзвюх мовах.

***— У савецкі пасляваенны час узбекская мова развівалася на аснове кірылічнай графікі. Незалежны Узбекістан перайшоў на лацінку. Вашы кнігі выходзілі і выходзяць на кірыліцы. Што вы думаеце пра змяненне алфавіту? Як звычайна пішаце вы?***

— Афіцыйна ўзбекскую мову перавялі на лацінку. Але гэта такі сапсаваны кшталт лацінкі, што ніхто практычна не ўмее пісаць правільна, хоць сто гадоў вывучай. Мне здаецца часам, што адмыслова ўскладнілі ўсё, каб людзі заставаліся непісьменныя — так іх прасцей кантраляваць. Да 1940 года ў нас была ўжо лацінка — і вельмі ўдалы варыянт. Дарэчы, гэты варыянт лацінкі ўзяла турэцкая мова. Я пішу на кірыліцы, але магу, вядома, і на лацініцы пісаць. Проста для мяне лепшы варыянт лацінкі — той, што быў у нас да вайны, — «турэцкі варыянт». Карымаў прыняў гэтак званы «французскі» варыянт лацінкі, які ніяк не падыходзіць узбекскай мове — ён усіх блытае. Да ўсяго і гэты французскі варыянт умудрыліся сапсаваць. Таму я ніяк не магу прыняць гэты варыянт. У фэйсбуку я магу пісаць і кірыліцай, і лацінкай. Ва Узбекістане таксама ўсе пішуць на двух варыянтах. Але, скажу, пішуць вельмі непісьменна. Народ стаў непісьменны. З нашай мовы проста здзекуюцца. Я шмат пісаў пра гэтую праблему ў фэйсбуку.

***— Вы ніколі не хацелі напісаць кнігу сваіх успамінаў? Пра тое, як вы патрапілі ў Аўстрыю? Гэта можа быць вельмі цікава і важна для новых пакаленняў узбекаў.***

— Мне заўсёды было няёмка пра сябе пісаць. Я адчуваю сябе няёмка, як толькі публічна гаворка заходзіць пра мяне. Мне наогул няма чым пахваліцца ў жыцці. Мне ў ПЭН-клубе ў Берліне неяк таксама прапанавалі напісаць свае ўспаміны. Калі ўзяцца за апісанне майго жыцця, то атрымалася б велізарная намарная кніга. Я так лічу. Я стараюся пісаць пра галоўнае простай мовай — з дапамогай паэзіі. Мне гэтага хапае, ведаеце.

***— Можа, вы жадаеце нешта перадаць, пажадаць беларусам, якія таксама жывуць у дыктатуры?***

— Я веру, што беларусы хутка выберуцца з пасткі, пастаўленай дыктатарам. І выберуцца хутчэй за ўзбекаў. Я ў гэта веру, бо вы бліжэй да Еўропы, вы ў Еўропе, заўсёды быў і будзе дапаможны ўплыў Еўропы. Побач з вамі балтыйскія краіны, на якія вам варта арыентавацца. Я спадзяюся, што шмат прагрэсіўных людзей у Беларусі салідарызуюцца і дапамогуць захаваць «самастойнасць» краіны і вярнуцца да дэмакратыі. Жадаю поспехаў вам!

*Неба такое сумнае, цяжкае*
*і стомленае.*
*Зоркі — гэта маякі свабоды.*
*Чаму вы бачыце свабоду*
*толькі ў сне?*




**Я веру, што беларусы хутка выберуцца з пасткі, пастаўленай дыктатарам. І выберуцца хутчэй за ўзбекаў. Я ў гэта веру, бо вы бліжэй да Еўропы, вы ў Еўропе, заўсёды быў і будзе дапаможны ўплыў Еўропы**

# Ілля Шкурын супраць федэрацыі футбола

Сяргей КАЙКО

**Невядома, дзе сустракаў Новы год беларускі футбаліст Ілля Шкурын, але дакладна не ў Беларусі. Прыязджаць на радзіму яму цяпер небяспечна — і прычыны інфармаваныя чытачы добра ведаюць.**



Фота www.gazeta.ru

**Напрыканцы снежня стала вядома, што Фонд спартыўнай салідарнасці таксама ўжо сустрэчна звярнуўся ва УЕФА. І намеры яго красамоўныя — дабіцца пакарання для галоўных менеджараў БФФ**

Індывідуальная пратэсная актыўнасць маладога форварда — ці не самая прыкметная з'ява ў нашым футболе. Цвёрдая грамадзянская пазіцыя 21-гадовага бамбардзіра — адзін з тых безлічных прыкладаў, што зрабілі беларусаў «невераемнымі» і цяпер даюць ім надзею на доўгачаканыя перамены.

Супрацьстаянне Шкурына з Беларускай федэрацыяй футбола (БФФ) — а ў шырокім сэнсе наогул з сістэмай — працягваецца, ціхмяна пераваліўшы цераз навагодні рубікон. І мы будзем надалей за ім сачыць — са спагадай і простым жаданнем, каб аднаму асобнаму чалавеку хапіла моцы перадужаць усёмагутнага Левіяфана.

Напачатку было слова, і яго сказаў сам Шкурын. Спачатку кароткім запісам у Instagram, а потым і ў афіцыйным лісце на адрас федэрацыі (складзеным, дарэчы, на беларускай мове) ён адмовіўся ад выступу за зборную Беларусі і ўвогуле ад таго, каб прыязджаць на радзіму. Не назаўсёды — да таго часу, пакуль ва ўладзе Аляксандр Лукашэнка.

Гэта было смела, і матывы такога ўчынку ляжалі на паверхні. Па краіне толькі-толькі прагрукаталі прэзідэнцкія выбары, вынікі якіх абурылі грамадства, а потым яшчэ і ўзнялася надзвычайная хваля міліцэйскага гвалту — пра гэта загаварыў увесь белы свет.

Тым не менш у зборную Шкурына запрашалі. А ён, верны дадзенаму слову, не ехаў — заставаўся ў Маскве, дзе гуляе за ЦСКА. Так працягвалася да заканчэння футбольнага сезону, пасля чаго імперыя нанесла ўдар у адказ.

У сярэдзіне снежня стала вядома, што чыноўнікі БФФ пачалі актыўна вырашаць «пытанне Шкурына». Не, яны не паспрабавалі наладзіць з Іллём канструктыўны дыялог ды патлумачыць, што, маўляў, зборная — гэта не каманда Лукашэнкі, гуляць за яе — гэта гуляць дзеля заўзятараў. Яны не скарысталі іншыя метады дыпламатыі і камунікацыі, прынятыя ў цывілізаваным свеце. Яны, што ўласціва дзяржаўным інстытуцыям, нібыта вырашылі адпомсціць нападаючаму — і звярнуліся да тыповага разбуральнага ціску.

Тады і выявілася, што знаходзіцца ў родным Віцебску Шкурыну стала небяспечна. У прэсе з'явілася інфармацыя, што ў вачах дзяржавы 21-гадовы хлопец перастаў быць перспектыўным нападаючым, а ператварыўся ў шараговага прызыўніка. Яго выключылі са спісу гульцоў-зборнікаў і мэтанакіравана пазбавілі льгот адносна вайсковага абавязку.

Што гэта азначае, мы занадта добра ведаем — прынамсі, на прыкладзе адлічаных восенню студэнтаў. Ім, нязгодным і тым, хто пасмеў пайсці супраць палітыкі партыі, радзіма хуценька знайшла іншае прымяненне — неадкладна выпісала позву ў войска, знайшла кірзавыя боты па памеры і шынель, што не цісне ў плячах.

Тое ж самае цяпер свеціць і галоўнаму пратэстоўцу сярод футбалістаў. Знойдуцца і галіфэ, і боты з анучамі, як толькі ён акажацца ў дасяжнасці клапатлівага дзядзькі-ваенкама. Армія ж у выпадку Шкурына — і гэта дакладна — зруйнуе спартыўную кар'еру, якая толькі-толькі пачалася.

Аднак і гэта яшчэ не ўсё. Паралельным кірункам федэрацыя адкрыла супраць нападаючага і міжнародны фронт. БФФ афіцыйна звярнулася ў Саюз еўрапейскіх футбольных асацыяцый (УЕФА) з тым, каб на гульца наклалі санкцыі за адмову прыязджаць у зборную.

УЕФА, хто не ведае, — гэта як МАК датычна алімпійскага руху. Міжнародны футбольны інстытут (з офісам у швейцарскім Ньёне), якому павінны падпарадкоўвацца ўсе нацыянальныя федэрацыі. Заяву з Мінску ў Швейцарыі прынялі. І нават вызначылі тэрмін разгляду справы «БФФ супраць Шкурына». Пасяджэнне адбудзецца 14 студзеня, то-бок ужо хутка.

Зразумела, мы будзем сачыць за падзеямі, аналагу якім летапіс беларускага футболу не ведае. Тым больш, падаецца, фінал у гэтай гісторыі можа аказацца далёка не той, якога прагне дабіцца кіраўніцтва беларускай федэрацыі. А супрацьлегла. Па-першае, таму, што драконаўскіх санкцый нападаючаму ЦСКА Ньён хутчэй за ўсё не выпіша — няма такога мэйнстрыму ў міжнароднай практыцы, каб жорстка рэпрэсаваць гульцоў фактычна за палітычныя погляды. А выступ за зборную ва ўсім свеце збольшага справа добраахвотная — і беларус Ілля Шкурын не першы, хто ад такога гонару адмовіўся.

Па-другое, рушыўшы са сваёй чыноўніцкай крыўдай у сферу міжнароднай юрысдыкцыі, БФФ рызыкуе сама падаравацца на міне запаволенага дзеяння.

Бо ўсё, згаданае вышэй, вельмі падобна да дыскрымінацыі спартсмена па палітычных прыкметах. І стварае роўна той жа кейс, які нядаўна адбыўся з беларускім алімпізмам. МАК, як мы памятаем, пакараў айчынны НАК, па сутнасці, абвясціўшы персонамі нон грата яго кіраўніцтва — Аляксандра і Віктара Лукашэнкаў. Тое ж самае можа пагражаць і кіраўнікам БФФ, якія вырашылі з імпэтам «павыхоўваць» аднаго прынцыповага футбаліста.

А футбаліст той, дарэчы, ужо знайшоў падтрымку — і сімвалічна, што абаронай яго правоў пачаў займацца Фонд спартыўнай салідарнасці. Так, менавіта тая самая грамадзянская ініцыятыва, якую ўзначальвае легендарная плыўчыха Аляксандра Герасіменя і якая, уласна кажучы, і давяла Нацыянальны алімпійскі камітэт да знакамітага цугундэра з санкцыямі.

Напрыканцы снежня стала вядома, што Фонд спартыўнай салідарнасці таксама ўжо сустрэчна звярнуўся ва УЕФА. І намеры яго красамоўныя — дабіцца пакарання для галоўных менеджараў Беларускай федэрацыі футболу. Гаворка пра старшыню — Уладзіміра Базанава, і двух яго намеснікаў — Юрыя Вяргейчыка і Міхаіла Ботнікава. Справа ідзе пра тое, каб усіх траіх пажыццёва адхіліць ад прафесійнага футбола.

Такая рашучасць выкрывае сур'ёзную падрыхтаванасць Фонду спартыўнай салідарнасці і глыбокую прапрацоўку пытання з удзелам дасведчаных міжнародных юрыстаў. Што характэрна і надае вагі звароту ў Ньён, выпадак з ціскам на Шкурына там зусім не адзінкавы. Там яшчэ і гісторыя паўабаронцы Станіслава Драгуна — і яго дзіўнае ігнараванне трэнерамі зборнай, меркавана, з палітычных прычын. Бо занадта ж актыўна і непрыхавана той падтрымліваў як рэпрэсаваных спартсменаў, так і ўвогуле прагу беларусаў да перамен. Там і іншыя прыклады таго, як футбалісты цярпелі ад БФФ за свой светапогляд.

Новы футбольны сезон у Беларусі возьме старт недзе ў сакавіку. Самы час, здавалася б, федэрацыі прааналізаваць шматлікія памылкі і зрабіць над імі належную работу. Але пакуль выглядае, што звесці рахункі са Шкурыным — вось першачарговы клопат БФФ. На шчасце, Беларусь у мінулым годзе выйшла на такі ўзровень салідарнасці і ўзаемадапамогі, што яе лепшых грамадзян ёсць каму абараніць.

Ілля Шкурын гэта цудоўна разумее, і большасць заўзятараў адназначна на яго баку.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 4

Падпісана да друку 04.01.2021. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.